
Свята пісьменнасці → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Беласток у Мінску → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 23 (3082) Год LX Беласток, 7 чэрвеня 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Алесь Бяляцкі: «Гаварыць пра нейкія змены ў Беларусі рана зараз»

Алесь Бяляцкі, з 1996 г. кіраўнік Праваабарончага цэнтра „Вясна", з 2007 г. віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі праvoў чалавека, а таксама сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і аўтар кніг „Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера", „Літаратура і нацыя", „Асьвечаныя беларушчынай", „Халоднае крыло радзімы". У 1986 г. быў адным са стваральнікаў Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», потым старшынёй гэтай арганізацыі. У 1988 г. выступіў адным з заснавальнікаў таварыства «Мартыралог Беларусі», быў сябрам Арганізацыйнага камітэта Беларускага народнага фронту. У 1990 г. выступіў адным з арганізатараў Беларускай каталіцкай грамады. Быў дэпутатам Мінскага гарадскога савета. З 1989 па 1998 гг. працаваў дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, кіруе праваабарончым цэнтрам «Вясна». За сваю праваабарончую дзейнасць узнагароджаны прэміяй Свабоды імя Андрэя Сахарава ад Хельсінскага камітэта, прэміяй Homo Homini ад арганізацыі People in Need, прэміяй Вацлава Гавела ад Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы. Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя Алеся Адамовіча. Муніцыпалітэт горада Генуя (Італія) надаў Алесю Бяляцкаму званне „ганаровы грамадзянін Генуі". У 2011 годзе ПЦ „Вясна" пад кіраўніцтвам Алеся Бяляцкага ўшанаваны быў Прэміяй Свабоды Атлантычнай Рады ЗША. Бяляцкі двойчы вылучаўся на Нобелеўскую прэмію міру: у 2006 і 2007 гг. Трэці раз такое вылучэнне адбылося ўжо пасля яго арышту ў 2011 г. За дзейнасць накіраваную на абарону правоў чалавека і дэмакратызацыю выбарчых працэсаў трапляў за краты не раз. У жніўні 2011 г. быў арыштаваны па абвінавачванні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры, артыкул 243, частка 2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь). 24 кастрычніка 2011 г. быў прысуджаны да 4,5 года ў выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці за «утойванне прыбыткаў у буйным памеры». Праваабаронца сваёй віны не прызнаў, заявіў, што ўсе грошы з рахункаў ішлі на праваабарончую дзейнасць. Краіны Еўрасаюза, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Бяляцкага палітвязнем, а прысуд палітычна матываваным. Прабываў у зняволенні ад жніўня 2011 г. да чэрвеня 2014 г.





Алесь Бяляцкі быў нечакана вызвалены з папраўчай калоніі № 2 г. Бабруйска 21 чэрвеня 2014 года — у дзень уступлення ў сілу Закона „Аб амністыі ў сувязі з 70-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў". За кратамі ён правёў 2 гады, 10 месяцаў і 17 дзён.

Алесь Бяляцкі не першы раз гасцяваў у рэдакцыі «Нівы». Атрымалі мы падтрымку ад яго і ягонай арганізацыі ў самы цяжкі для рэдакцыі час. На чарговай кнізе падпісаўся нам: *Дарагой рэдакцыі «Нівы», газеты, якая жыве і існуе і ўплывае на Беларусь ужо столькі часу. Імпэту ўсім вам і веры ў лепшую будучыню Беларусі. Алесь Бяляцкі, 27 траўня 2015 года, Беласток.* У час прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў рэдакцыі «Нівы» ў той дзень, Алесь Бяляцкі закрануў тэму палітычных вязняў і суда над Юрыем Рубцовым, які ў гэты час адбываўся ў Пружанах. Гісторыя Рубцова пачалася фактычна з кашулькі з надпісам „Лукашэнка, сыходзь". Алесь Бяляцкі прадставіў рэальную карціну падзей у цяперашні час у Беларусі і адзначыў, што ніякіх змен няма.

— Гэты год, нягледзячы на пэўную спакойнасць, ён дастаткова трывожны. І ставіць пэўныя пытанні і выклікі перад беларускім грамадствам, грамадзянскай супольнасцю, беларускім народам, але таксама і перад уладамі краіны. Па-першае, на жаль, сітуацыя ў Беларусі за апошні час не змянілася. Апошняя станоўчая рэч — гэта маё вызваленне, і амаль год мінуў і ніякіх зрухаў у грамадскім жыцці, у самой краіне з пытаннямі правоў чалавека і дэмакратызацыі — не адбылося. У нас застаюцца палітычныя вязні. Вось сёння ідзе суд над Юрыем Рубцовым, якога асудзілі за мірны супраціў. І цяпер гэтая гісторыя працягнецца, верагодна, у калоніі. Рубцоў вырас са свайго змагання за працоўныя правы, ён не падпісаў працоўных кантрактаў і гэтак далей, то-бок яго змаганне спачатку мела сацыяльны характар, і ўрэшце ён зразумеў, што сама палітычная сістэма фарміруе гэтыя сацыяльныя адносіны паміж чалавекам і дзяржавай. Таму ён пачаў хадзіць у той кашульцы. Цяпер, калі ён адмаўляўся працаваць за малы заробак на „хіміі", я ў яго пытаўся, ці ён ведае, што яго пасадзяць. Ён кажа, ведаю, але гэта мой пратэст. Ён такі свядомы барацьбіт і за свае правы, і агулам за чалавечую годнасць. Стаўленне ўлад да палітычных зняволеных — не змяняецца. І Юры Рубцоў стаіць у адным шэрагу з Мікалаем Статкевічам, якому цяпер пагоршылі ўмовы ўтрымання, калі перавялі ў крытую турму з калоніі». Таксама Алесь Бяляцкі ўзгадаў сітуацыю з палітычным вязнем Мікалаем Дзядком, якому нядаўна працягнулі тэрмін зняволення яшчэ на адзін год. „Дадалі подла абсалютна, за тры дні да таго часу, як сканчаўся яго тэрмін зняволення". На думку праваабаронцы, гэта сігналы ўсяму беларускаму грамадству перад выбарамі, што „з кожным з вас можа здарыцца тое самае". Выбарчая кампанія фактычна пачалася і з яўнымі сігналамі застрашэння беларускага грамадства, пра што сведчыць і экстрадыцыя з краіны праваабаронцы Алены Танкачовай, якая большую частку жыцця пражыла ў Беларусі.

Прагучалі пытанні пра сітуацыю з незалежнымі СМІ ў Беларусі. Фактычна ўвесь мінулы год і з пачатку гэтага года ідзе няспынны ціск на тых журналістаў, якія працуюць на незалежныя сродкі масавай інфармацыі, такія як Беларускае Радыё Рацыя, тэлеканал Белсат, Еўрапейскае Радыё для Беларусі ды іншыя. «Ідзе псіхалагічны ціск на дэмакратычных журналістаў, каб прымусіць іх ці сушыцца, ці спыніць сваю супрацу з незалежнымі СМІ. Сітуацыя пагоршылася, калі ў мінулым годзе прынялі новы Закон аб СМІ, які незалежныя інтэрнэт-рэсурсы далічыў да СМІ. Мы бачым, як за апошні месяц некалькі сайтаў атрымалі лісты-папярэджанні з патрабаваннем патлумачыць, хто ёсць іх уладальнік. Гэта, зразумела, псіхалагічны ціск на каманды, якія працуюць на гэтых сайтах. Прычым падставы вельмі адвольныя, ніхто нават не ведае, на якіх падставах атрымаў папярэджанне музычны сайт tuzin.fm. Тым не менш, мне падаецца, што гэта пакуль „страляніна па плошчах". А потым яны пачнуць насамрэч „адстрэльваць" тыя сайты, якія яны палічаць небяспечнымі падчас выбарчай кампаніі, таму што гэта зноў жа ёсць падрыхтоўка да прэзідэнцкіх выбараў. Гэта можа нас чакаць у бліжэйшай будучыні».

Пагоршылася сітуацыя ў Беларусі: «Летась у снежні абваліўся беларускі рубель на 30%, пазней ён яшчэ патаннеў на 10%, пачаліся праблемы са збытам тавараў — абвал за апошнія месяцы на 40%, склады затавараныя прадукцыяй, прадпрыемствы сур'ёзна буксуюць і пераходзяць на няпоўны працоўны дзень. Улады не могуць масава звальняць людзей перад выбарамі — гэта прывядзе да сацыяльнага напружання. Цяпер таму шукаюць пазыкі, каб да выбараў гэтую сацыяльную напружанасць не ўзмацняць, і захаваць той эканамічны ўзровень, які ёсць прынамсі цяпер. Аднак на Расею спадзявацца не выпадае, там свае праблемы. Адпаведна шукаюць сродкі ў Еўропе, і гэтая кампанія „паляпшэння стасункаў з Еўрасаюзам" — яна, безумоўна, мае

працяг → 11





# Дзе добра жыць

У адной з сацыяльных сетак, якія ўсё больш становяцца пляцоўкамі для дыскусій, днямі ўступіў я ў дыскусію з адной даўняй, са студэнцкіх часоў знаёмай. Не пагадзілася яна з маімі ўражаннямі і высновамі ад вандроўкі па Эстоніі. Меў я неабачлівасць пахваліць развіццё гэтай дзяржавы, асабліва ў параўнанні з іншымі былымі савецкімі рэспублікамі. Мая даўняя знаёмая перамалася сапраўдным, з яе пункту гледжання, становішчам эстонскай дзяржавы. Маўляў, Еўрасаюз забівае гэтую краіну, ужо зусім знішчыў сельскую гаспадарку і прамысловую вытворчасць. Што ўсё там валіцца і прападае літаральна на вачах, карціна проста апакаліптычная, так што плакаць хочацца. Прызнаюся, што я і сам хутчэй еўраскептык, мне многа не падабаецца ў сённяшняй Еўропе. Ды і жыццё ў Эстоніі ведаю не так добра і глыбока. Пісаў жа пра турыстычныя атракцыі Эстоніі, пра тое, што бачыў на свае вочы цягам тыдня. А ўражанні мае былі спрэс пазітыўнымі — добрыя дарогі, надзвычай зычлівыя людзі на вуліцах, цэны, якія зусім „не кусаюцца”. Прынамсі, кошты ў сталіцы Таліне на роўні абласных цэнтраў Беларусі і куды таннейшыя чым у Мінску. Той жа сервіс, асабліва турыстычны, у Эстоніі надзвычай высокага роўню. З Беларуссю, нашай абслугай і інфраструктурай няма чаго і параўноўваць, а пра „прелести” расейскай прасторы і казаць не хочацца. Пра тое, як маскоўскія „вызваліцелі” развіваюць турызм у нахабна захопленым Крыме і гаварыць лішне. Пра гэта ўжо шмат напісалі больш дасведчаныя за мяне журналісты і сказалі тыя, што засталіся жыць на няшчасным паўвостраве.

У кожнай дзяржаве ў наш час процьма праблем. Напэўна ў той жа Эстоніі і беспрацоўе расце, і маладым людзям уладкавацца не так проста. Пра гэта таксама піша мая знаёмая. Яна, руская з паходжання, нарадзілася якраз там, але, мяркуючы па ўсім, вельмі даўно ў Эстоніі не была. Жывe яна ўжо дзесяцігоддзямі ў Беларусі, дзе не трэба вучыць ні эстонскай, ні беларускай мовы, але ўсё настальгуе, мяркуючы па яе пастах у той жа сацсетцы, па Савецкім Саюзе. І тут прыйшоў я да адной высновы, якая характарызуе менавіта руска-савецкага чалавека. Насельнікі кожнай краіны любяць наракаць на тое, як ім праблемна жыць у сваёй краіне — палякі скардзяцца, як ім цяжка ў Польшчы, літоўцы — як невыносна ў Літве, латышы — як жахліва ў Латвіі. Напэўна гэта ў нейкай ступені натуральная з'ява — быць незадаволеным існымі парадкамі. А вось руска-савецкі чалавек на ўсёй постсавецкай прасторы пераважвае цэлы час пра суседнія народы. І так моцна пераживае, што ўсё імкнецца некага вызваляць ад нечага. Адсюль і вынікаюць тыя захопніцкія войны, якія вядзе Крэмль.

Мы з маёй знаёмай вучыліся гісторыі прыблізна ў адзін час, у адным універсітэце і ў адных выкладчыкаў. Толькі яна чамусьці не хоча памятаць ні пра «тишайшего» цара Аляксея Міхайлавіча, які выразаў палову насельніцтва нашай зямлі, ні пра серыйнага забойцу-маньяка Івана Жахлівага, ні пра „Вялікага” Пятра Першага, які ўласнаручна забіваў манахаў у братнім Полацку, ні пра Мураўёва-Вешальніка, ні пра крывавага тырана Сталіна, які чыніў страшныя генацыд і этнацыд. А мне ўсё гэта, і расстрэлы ў Курапатах, і беларускія хлопцы, якія зляжылі галаву ў Афганістане і распыленыя над Беларуссю чарнобыльскія хмары, і многія іншыя ласкі Масквы неяк з галавы не выходзяць.

А што датычыць таго, дзе каму добра ці кепска жывецца, то для мяне ёсць прынамсі адзін яскравы паказнік. Не чуў я аніводнага выпадку, каб хтосьці з сумежных беларусаў, якія так захапляюцца новым парадкам у сённяшняй Беларусі, пераехаў сюды на стала, у гэты тэлевізійны „сацыяльны рай”. Ні з Эстоніі ніхто не едзе, ні з Літвы, ні з Падляшша, дзе таксама любяць міфы пра квітнеючую Рэспубліку Беларусь. Едуць з „сонечнага Азербайджана”, пруцца з „магутнага” сацыялістычнага Кітая, вучацца з „мармурова-залатога” Туркменістана, уцякаюць насельнікі з акупаванага Данбаса. А вось з бліжэйшага сумежжа суайчыннікі неяк не імкнуцца. Многія нават на пару дзён прыехаць не хочуць. Гэта і ёсць найбольш аб'ектыўны індыкатар. А тых, хто пасапраўднаму любіць Беларусь, сюды не пускаюць „вызваліцелі”.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Дуда не Пушкін

Выбарчая пена, як у шклянцы піва, павольна ападае. Як звычайна, аказваецца занадта позна, што была яна напоўненая напалову. Але мне здаецца, што на гэтае махлярства ніхто не звяртае ўвагі. Але без сумневу зоймемся невырашальным пытаннем, ці выбарчая шклянка паўпустая ці напалову поўная. І ці толькі, ці аж! Гэта прадказальная спрэчка можа здзіўляць у той ступені, што ў любым выпадку ўсе заплацім не за палову чагосьці, а за цэласць, якая складаецца па палове з пустога і поўнага.

Быццам бы арыфметычна плюс і мінус кампенсуюць адзін аднаго да нуля, але рэальнасць зусім іншая. Не адзін нуль надаядае не толькі адзінкам. Часам пакутуе ад яго шырокая грамадскасць. Гісторыя запісала многа такіх выпадкаў. На жаль, людзі неахвотна чэрпаюць з гэтай мудрасці — ці мо яны дурні? А так. У палове. У другой палове яны разумныя. Толькі заўсёды запозна. Ведаю, ведаю, страшна выдумнае слова — занадта позна! Тым не менш, не без падставаў, я паўтараю яго так зацята. Стаіць за ім старая прыказка пра таго, хто разумнее толькі пасля зробленай (ці толькі сабе?) шкоды. Гэта не адносіцца толькі да польскай нацыі. Гэтая прыказка ў роўнай ступені адносіцца да беларусаў, расіян і немцаў. Мудрасць народаў не выражаецца арыфметычна сумай мудрасці, адукацыі або інтэлекту паасобных адзінак. Звычайна зводзіцца яна да ўзроўню, блізкага статыстычнай дурноце. Гэты шакавальны дысананс спрабуе растлумачыць псіхалогія натоўпу. Для таго, каб не ісці ў падрабязныя нюансы, варта адзначыць, што працэсы, якія кіруюць натоўпам, цалкам адрозніваюцца ад тых, якія рэгулююць псіхалогію аўтаномнай адзінкі. Агульна кажучы, адзінка рацыяналізуе сваю пазіцыю; натоўп выказваецца эмоцыямі. Але не нейкімі загадкавымі эмоцыямі, незалежна ад таго, ці маніпуляванымі кім-небудзь ці не, але менавіта гэта яны дамінуюць у непасрэднай блізкасці кожнага з нас — у сям'і, кампаніі, сярод суседзяў, на працы, у светапоглядзе. Яны неабавязкова сумяшчальныя адзін з адным. Тым не менш, перакрываючы адзін аднаго праз, здавалася б, хаатычнае ўзаемадзеянне, сфармоўваюць агульную мадэль нашых эмацыйных адносін. Існуе тэорыя, якая спрабуе апраўдаць непрадказальныя, хоць асабліва паслядоўныя паводзіны ўсіх па аналогіі з паводзінамі напалоханага касяка рыб. Іх калектыўны ў выніку ўцёкаў танец зачароўвае ўсіх, хто глядзіць фільмы пра прыроду. Сакрэт гарманічнага руху касяка, які часта складваецца з дзясяткаў тысяч асобін, аснаваны на простай імітацыі бліжэйшых таварышаў — тых, якія плывуць па баках, зверху і знізу. Можна сказаць, што кожная з рыб плыве так... як плыве кожная з іх. Касяк не мае важака. А дакладна, важаком касяка з'яўляецца генетычна вызначаны для кожнай рыбіны шаблон уцёкаў, накіроўваючы яе адзін раз улева, раз па дыяганалі, раз уніз або ўверх, каб яшчэ больш заблытаць пагоню ворага.

Напэўна тэорыя, якую я прывёў вышэй, не адносіцца непасрэдна да паводзін чалавека. І ўсё ж мае нешта супольнае, калі назіраць на халодны розум рэакцыі натоўпу ў эмоцыях. Я не хачу сказаць, што гэта невядомы натоўп зрабіў выбар новага прэзідэнта. Свае дамарослыя разважанні я рашуча адлучаю ад кантэксту апошніх выбараў у Польшчы, а таксама наступаючых у Беларусі або любых выбараў у свеце. Тым не менш, большасць выбараў, якія робіць грамада людзей, здаецца пасля ў рэтраспектыве незразумелымі і часта смешнымі.

Што тычыцца нядаўна выбранага прэзідэнта Анджэя Дуды, не так шмат можна сказаць пра яго. Перш за ўсё, таму, што, як прэзідэнт не прыведзены да прысягі, нічога яшчэ ён не мог сказаць. Пакуль што выказваецца як абраны прэзідэнт, і крыху раней як кандыдат для абрання. Значыць, так як і любы з нас грамадзянін. Але ж не апускайма заслоны міласэрнасці на тое, што ўжо сказаў. А ён сказаў тое, што найбольш поўна ўключана ў цытаце з паэмы «Герой» Пушкіна ў перакладзе Юльяна Тувіма: «Precz z mrokami niskich prawd! Wybieram kłamstwo, co wznosi nas, choć mami». Але, але... Ці пан Дуда гэта Пушкін?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Дзень мясцовага самакіравання

У гадавіну першых мясцовых выбараў у рады гмін 27 мая адзначаўся ў Польшчы Дзень мясцовага самакіравання. Выбары на гмінным узроўні сталі магчымымі дзякуючы прыняццю парламентам 8 сакавіка 1990 г. Закона аб мясцовым самакіраванні. Раней пастулаты ў гэтай справе былі сфармуляваны на І З'ездзе «Салідарнасці» і на першых вольных (хоць і не цалкам) парламенцкіх выбарах 1989 г. Такім чынам адкрыўся шлях да таго, каб грамадзяне самі вырашалі аб справах, якія іх хвалююць, і так пачало адраджацца самакіраванне ў Польшчы. У Беластоку гадавіна на ваяводскім узроўні была ўшанавана, між іншым, выставай перад Дзяржаўным архівам. Кінулася мне ў вочы фотакопія выказвання Віктара Стахвюка, які на першых мясцовых выбарах прадстаўляў неіснучае ўжо Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, заснаванае ў Беластоку 10 лютага 1990 г. Тэкст выказвання быў затым апублікаваны ў выданні «Tygodnik Białostocki» — часопісе членаў і прыхільнікаў «Салідарнасці». Ён дзяліўся сваімі выбарчымі ўражаннямі побач з Аляксандрам Усакевічам — тады прадстаўніком Грамадзянскага выбарчага камітэта «Салідарнасць», і Бернардам Буйвіцкім, які дзейнічаў у структурах Хрысціянска-дэмакратычнай партыі працы. Віктар Стахвюк прыйшоў да такой высновы: «Найбольш важным поспехам гэтых выбараў з'яўляецца тое, што на працягу вельмі доўгага часу, першы раз ад сямідзесяці гадоў, беларусы пайшлі на выбары як беларусы, усведамляючы сваю нацыянальную ідэнтычнасць». Раней заўважыў: «Гэтыя выбары апраўдалі чаканні нашай партыі [БДА], хоць у Беластоку, верагодна, не. Тут мы зрабілі памылку ў назве спіска; павінна яна ўтрымліваць словы «беларускі» або «праваслаўны» (БДА стала часткай Кааліцыйнага выбарчага камітэта — М. Х.) Нашы выбарчыя шансы ў глыбінцы прадбачылі мы досыць трапна. Што тычыцца Гарадка, Нараўкі, Белавежы, Нарвы, Чыжоў, Орлі — вось нам тут атрымалася вельмі добра, як і чакалася. Папраўдзе, большасць вынікаў нас цешыць — у Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім, Мілейчычах беларускі нацыянальны акцэнт быў самым важным элементам у нашай кампаніі і прывёў да поспеху». Далей падкрэсліў, што сюрпрызам для БДА былі вынікі ў Міхалове, дзе з ліку чатырох кандыдатаў не прайшоў ані адзін, але, — прызнаўся ён, — не было там ніякіх агітацыйных дзеянняў. Ён таксама адзначаў, што выбарчая кампанія паспяхова завяршылася ў Гарадку, дзе здабылі 17 дэпутацкіх мандатаў на агульны лік 20 месцаў у радзе. Падсумаваў наступным чынам: «Выбарчую кампанію вялі мы за сціплыя сродкі. Працягвалася яна без сур'ёзных памылак, спакойна. Не несла нічога дрэннага для беларусаў. Нават у Беластоку, дзе нашы кандыдаты не прайшлі, не здаецца, што беларусам магло здарыцца нешта дрэннае». Агулам, у першых выбарах у Беластоцкім ваяводстве прыняло ўдзел 42,8 працэнта выбаршчыкаў. Не ўсюды ўдалося абраць радных. Не было ахвотных узяць дэпутацкі мандат у Дубічах-Царкоўных. Яўка ў Беластоку склала 40,5 адсотка, а па ўсёй краіне — 40 адсоткаў. Рашуча выйграў Грамадзянскі выбарчы камітэт «Салідарнасць». Ён узяў 42 з агульнага ліку 50 мандатаў.

І, на канец, думка, якую з нагоды гадавіны выказаў праф. Ежы Стэмпень, сааўтар рэформы мясцовага самакіравання 1990 года ў адным са шматлікіх інтэрв'ю: «Сёння мы стварылі мадэль, дзе «граданачальнікі» не нясуць адказнасці перад радай. Больш таго, часта самі падпарадкоўваюць сабе раду, будучы па-за ёю. Ёсць дакладна так як у ПНР: сакратар партыі быў навонкі нарадовай рады, але ёю кіраваў, і рада была чымсьці, што мела б нагадваць прадстаўніцтва мясцовай супольнасці, але ім не была. Прафесар Кулеша перад сваёй смерцю казаў, што «ужо не маем самаўрадаў, але зноў нарадовыя рады, якія нічога не могуць. Даказваю, што маем цяпер самадзяржаўе. Мы зрабілі перааръентацыю філасофіі самакіравання. У мяне ёсць непрыемнае адчуванне, што мы рухаемся ў няправільным кірунку, пры адабрэнні многіх палітыкаў, якія хацелі б яшчэ прамых выбараў старасты ці маршалка ваяводства. Гэта адбываецца, на жаль, пры падтрымцы самаўрадаўцаў, асабліва тых у вярхах, у якіх пераважае жаданне мець уладу. А ў буйных гарадах гэта рэальная ўлада, часта большая, чым у міністра». І вось да гэтага мы дайшлі на працягу 25 гадоў дзейнасці самаўрадаў у Польшчы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Дні славянскай пісьменнасці

**Дні славянскай пісьменнасці, арганізаваныя 23 і 24 мая ў Бельску-Падляшскім, галоўным чынам Музеем малой айчыны ў Студзіводах, сталі асноўным момантам XII Падляшска-Палескіх сустрэч у традыцыі «Там по маёвуй росі». Прымеркаваныя яны былі да дня ўшанавання памяці настаўнікаў славян, святых Кірылы і Мяфодзія, які адзначаецца 24 мая. Дні славянскай пісьменнасці адкрываюць таксама юбілей 520-годдзя кнігі «Пралог», найстарэйшай захаванай славянскай кнігі з Бельска, якая паўстала ў 1496 годзе і змяшчае жыцці святых. Падчас свята кнігі наш беларускі паэт Віктар Швед, які нядаўна адсвяткаваў дзевяностыя ўгодкі з дня нараджэння, быў узнагароджаны ордэнам «За вернасць Бацькаўшчыне».**




■ Дарафей Фіёнік, пераапрануты за бельскага старасту Солтана Аляксандравіча, паказвае кнігу «Пралог». За друкарскім станком — Юры Андраюк, заснавальнік Музея друкарства і вытворчасці паперы ў Супраслі

Дні славянскай пісьменнасці праходзілі ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах, Пакроўскай царкве ў Бельску-Падляшскім і на плошчы пры ратушы, у якой змяшчаецца філіял Падляшскага музея. Адукацыйна-культурнае мерапрыемства, якое прыцягнула шматлікіх бяльшчан, удастоілі бургамістр Яраслаў Бароўскі, пасол Сейма РП Аляксандр Сасна і старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа. Адкрываючы кірмаш кніжкі бургамістр Яраслаў Бароўскі заклікаў цікавіцца багатай гісторыяй Бельска, не забываць пра нашае славянскае паходжанне і кірылічныя кнігі.

— У нашым Бельску вакол ратушы — прыгожае месца. Мы рашылі выкарыстаць яго для нашых прапаноў, з якімі выходзім да бяльшчан і прыезджых. Спачатку мы наладзілі тут Кірмаш на святога Мікалая, цяпер ужо чацвёрты раз арганізуем мерапрыемства гістарычнага характару. Сёння Царква ўшаноўвае памяць святых Кірылы і Мяфодзія, якія саставілі славянскі алфавіт. У горада Бельска ёсць доўгія пісьменніцкія традыцыі. Гэта добрая нагода адзначыць у нас Дні славянскай пісьменнасці. Ужо ў XIII стагоддзі ў Бельску былі кнігі, а ў XV стагоддзі ў Мікалаеўскім манастыры ў Бельску кнігі пісаліся. Адна з такіх кніг, «Пралог», якая паўстала ў Бельску ў 1496 годзе па заказе Солтана Салтановіча, захавалася да сёння. Яна доўгі час была ў Супрасльскім манастыры, а пасля трапіла ў Маскву, дзе цяпер знаходзіцца ў Маскоўскай гістарычнай бібліятэцы. Маючы ў Бельску і іншых месцах нашага ваяводства такія вялікія традыцыі славянскай пісьменнасці, хочам аб гэтым расказаць бяльшчанам і астатнім жыхарам Падляшша. На нашай тэрыторыі ў суседніх Заблудаве і Супраслі таксама былі вялікія друкарскія традыцыі, якія прадаўжаюцца да нашых часоў. Беласточчына цяпер гэта выдавецкі феномен, дзе вялікую актыўнасць праяўляюць беларусы. Дзейнічаюць у нас і царкоўныя выдавецтвы, — сказаў Дарафей Фіёнік, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», спецыяліст па мясцовай гісторыі і фальклоры.

Падчас бельскага кірмашу кніжкі Дарафей Фіёнік выступаў пераапрануты за бельскага старасту Солтана Аляксандравіча, бацьку Солтана Салтановіча. Прэзентаваў ён наведвальнікам кірмашу кнігу «Пралог», надрукаваную ў XIX стагоддзі, з такім самым зместам як у арыгінале з 1496 года.

Святкаванне ў гонар славянскай пісьменнасці распачалося ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах 23 мая з музыкалагічнага семінара «Даўняя царкоўная музыка і традыцыйны спеў Палесся». Вялі семінар Дарафей Фіёнік і спецыяліст па даўняй царкоўнай музыцы Марцін Абійскі, ураджэнец Гайнаўкі. Ён — дырыжор Камернага хора імя Багдана Анісімовіча, які дзейнічае пры Супрасльскім мужчынскім манастыры.

— Падчас семінара мы разважалі аб сувязях паміж даўняй царкоўнай музыкай сярэднявечча і традыцыйным спевам Палесся, якія маюць многа супольнага. Марцін Абійскі — знаток візантыйскага і старарускага спеваў, паказаў нам гэтыя сувязі. У семінары прынялі ўдзел спевакі з вёсак Сташаны Пінскага раёна і Леснікі Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Прыгожасць царкоўнай музыкі, вы-



■ Ордэн «За вернасць Бацькаўшчыне» Віктару Шведу ўручае мастак Мікола Кузьміч з Брэста

конванай візантыйскімі мелодыямі, маглі мы ўчуць падчас багаслужбы ў Пакроўскай царкве ў Бельску. Пакроўская царква быццам створаная для даўняга царкоўнага спеву, які зрабіў вельмі вялікае ўражанне на верніках, — гаварыў Дарафей Фіёнік.

Усяночную багаслужбу ў Пакроўскай царкве, што адбылася ў суботу пасля семінара, узначаліў мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк, дэкан Бельскай акругі. У нядзелю малітвы падчас літургіі ўзначаліў праваслаўны ардынарый Войска Польскага епіскап сямятыцкі Георгій. Падчас багаслужбаў спяваў Камерны хор імя Багдана Анісімовіча пад кірункам Марціна Абійскага. У суботу хор выконваў візантыйскія мелодыі, а ў нядзелю — мелодыі з «Супрасльскага ірмалагіёна».

Пасля нядзельных малітваў удзельнікі Дзён славянскай пісьменнасці сустрэліся на плошчы пры ратушы. Падчас свята кнігі паэт Віктар Швед, які нядаўна адзначыў 90-гадовы юбілей, быў узнагароджаны ордэнам «За вернасць Бацькаўшчыне».

— Прысуджэнне мне ордэна шчыра мяне ўзрушыла, бо я ніколі не спадзяваўся, што атрымаю такое вялікае грамадскае прызнанне — ордэн «За вернасць Бацькаўшчыне». Тым больш важна, што гэта не дзяржаўны, а грамадскі ордэн. Гэта ацэнка маёй дзейнасці, за ўсе мае здабыткі, за ўсё тое, што я напісаў. Шаснаццаць маіх кніжак выдадзена, надрукавана звыш 3 тысяч маіх вершаў у «Ніве». Мае літаратурныя дасягненні ўзнагароджаныя ордэнам, — сказаў Віктар Швед.

Ордэн выканаў заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Мікола Кузьміч з Брэста, а фундатарамі ордэна «За вернасць Бацькаўшчыне», які раней атрымалі Мікола Тарасюк з Палесся і Анатоль Краўчук з Падляшша, з'яўляюцца вядомыя беларусы Палесся і Беласточчыны, якія састаўляюць капітул ордэна.

— Трэба было ўзнагародзіць заслужанага для беларускай культуры нашага Міколу Тарасюка і тады мы вырашылі стварыць ордэн «За вернасць Бацькаўшчыне». Пасля да капітула далучыліся вядомыя беларусы Падляшша і ордэн стаў міжнародный узнагародай, якою мы сталі вылучаць найстарэйшых заслужаных для беларускай справы беларусаў. Віктар Швед асабліва заслужыў ордэн. Зараз мы разважаем, ці не пачаць ім узнагароджваць маладшых асоб, — сказала старшыня капітула ордэна «За вернасць Бацькаўшчыне» Ларыса Быцко з Брэста.

Падчас свята кнігі быў арганізаваны кніжны кірмаш. У палатках побач бельскай ратушы прэзентавалася многа кніжак на беларускай мове. Можна было купіць выданні Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», Беларускага гістарычнага таварыства і Універсітэта ў Беластоку. Прапанаваліся беларускія кніжкі выдадзеныя Праграмнай радай «Нівы» і апошнія нумары нашага тыднёвіка. Сёлета адзначаецца сотая гадавіна бежанства. Наведвальнікі кірмашу пыталіся пра кніжку «Бежанства», якая ў 2000 годзе была выдадзена Праграмнай радай «Нівы». Аднак яна ўжо распрададзена. Галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Вапа патлумачыў, што ў ліпені гэтага года выйдзе з друку другое выданне кніжкі «Бежанства». Публіка магла паглядзець фотавыставу «Бежанства. Супольная гісторыя», створаную Фондам імя князя Канстанціна Астрожскага, якая раней прэзентавалася ў Беластоку і Гайнаўцы. Побач выставы стаяў стары драўляны воз, падобны на тыя, якімі нашы продкі сто гадоў таму адпраўляліся ў бежанства. На кірмашы духоўную літаратуру прэзентавалі выдавецтвы Варшаўскай праваслаўнай мітраполіі, «Братчык» з Гайнаўкі, Свята-Елізавецінскага жаночага манастыра і Праваслаўнага брацтва трох віленскіх мучанікаў — абодва з Мінска.

— У Беларусі праваслаўныя кніжкі выдаюцца перш за ўсё на расійскай мове. Нашае выдавецтва Праваслаўнага брацтва трох віленскіх мучанікаў у Мінску выдае кніжкі перш за ўсё на беларускай мове. Тут прапануем праваслаўныя беларускамоўныя выданні і беларускі праваслаўны штотыднёвік «Царкоўнае слова». Мы ў супрацоўніцтве з выдавецтвам «Ортдрук» у Беластоку ўжо 20 гадоў выдаем штогоднік «Праваслаўе», які сёння таксама можна купіць. Апошнім часам наладзілі мы шчыльнае супрацоўніцтва з Дарафеем Фіёнікам і ягоным музеем, — сказаў Кастусь Антановіч, рэдактар часопіса «Праваслаўе» і супрацоўнік выдавецтва Праваслаўнага брацтва трох віленскіх мучанікаў у Мінску.

У Бельску можна было купіць таксама кнікі, выдадзеныя Фондам імя князя Канстанціна Астрожскага ў Беластоку, выдавецтвам «Ортдрук» у Беластоку, Музеем малой айчыны ў Студзіводах і Інтэрнэт-Бібліятэкай «Камунікат». Прэзентаваліся таксама кніжкі выдавецтваў «Пагранічча» з Сейнаў, «Суседзі» з Беластока і «Стопка» з Ломжы. Ахвотныя маглі паглядзець выставы ў ратушы.

Музей друкарства і вытворчасці паперы з Супрасля паказаў даўнюю друкарскую працу. Юры Андраюк, які арганізаваў і вядзе музей, на друкарскім станку аддрукоўваў старонкі «Пралога» і раздаваў іх наведвальнікам мерапрыемства.

Падчас Дзён славянскай пісьменнасці Студзіводскі музей сарганізаваў вялікі музычны канцэрт. Перад публікай займальна запрэзентаваліся група гістарычнай музыкі «Гістрыён» і калектыў «Гаманіна» (абодва з Мінска), а таксама калектывы «Хаціславяне» і «Табала» з Хацяслава Маларыцкага раёна. Удала выступілі калектыў сясцёр Лук'яновіч з вёскі Леснікі, і калектыў «Чабатухі» з сяла Сташаны. Ад імя падляшан выступілі «Падляшанкі» з Гарадзіска, «Маланка» з Бельска-Падляшскага і «Жэмэрва» са Студзіводаў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Медаль прафесару Сянкевічу

Прыродазнаўча-гуманітарны ўніверсітэт у Седльцах 20 мая адзначыў сваё штогадовае свята. Ва ўрачыстасці, апрача прадстаўнікоў акадэмічнага асяроддзя, удзельнічалі парламентарыі, самаўрадаўцы, прадстаўнікі шматлікіх устаноў рэгіёна. У час святкавання званне ганаровага доктара было прысвоена радамскаму біскупу Генрыку Тамасіку. Адбыліся таксама доктарскія прамоцыі, а навуковыя супрацоўнікі былі ўзнагароджаны медалямі «За заслугі для Седлецкай ВНУ». Сярод шасці ўдастоеных медаля навукоўцаў быў беларус — праф. Васіль Сянкевіч. Працуе ён у Прыродазнаўча-гуманітарным універсітэце на Кафедры рускай філалогіі і кампаратывістыкі Інстытута сучасных моў і міждысцыплінарных даследаванняў. Званне доктара філалагічных навук атрымаў ён у 1987 годзе ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на аснове дысертацыі «Катэгорыя ацэнкі ў рускім і беларускім мовазнаўстве». Габілітацыю атрымаў у 1997 г. на падставе манаграфіі «Семантыка і прагматыка рэферэнцыяльных адносін у беларускай мове». Званне прафесара атрымаў у 2004 г. у Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь. Кола ягоных навуковых інтарэсаў — семантыка і прагматыка славянскіх моў. Выдаў больш за 200 навуковых публікацый.

Праф. Васіль Сянкевіч сказаў «Ніве», што на працягу 35 гадоў прафесійнай працы шмат разоў узнагароджваўся дыпломамі. Аднак «За заслугі для Седлецкай ВНУ» гэта яго першы медаль. «Гэта для мяне асаблівая ўзнагарода. Тым больш, што атрыманая ў Польшчы. Задавальненне прыносіць свядомасць, што супрацоўніцтва ў сферы навукі і адукацыі не мае межаў. Для мяне гэта таксама радасць, што магу працаваць з польскай моладдзю. Для мяне, спецыяліста па мовазнаўстве, гэта так-



сама вялікі прафесійны і даследчыцкі вопыт. Наглядаю вельмі добрае навуковае садзеянне паміж універсітэтамі ў Брэсце і Седльцах. Радуе, што ў гэтай сферы польска-беларускія адносіны мацуюцца і развіваюцца. Іначай быць не можа. Менавіта тое, што здзяйсняецца супольным высілкам, спрычыняецца да распаўсюджвання Дабра, Праўды і Справядлівасці». Медаль праф. Васілю Сянкевічу ўручылі рэктар Прыродазнаўча-гуманітарнага ўніверсітэта праф. Тамара Захарук сумесна з прарэктарам праф. Казімежам Янкоўскім. У выказванні для «Нівы» дэпутат Сейма Станіслава Пшондка адзначыла, што ўзнагарода для праф. Сянкевіча гэта не толькі ўшанаванне яго навукова-арганізацыйнай працы, але перш за ўсё ўказване на трансгранічнасць супрацоўніцтва акадэмічных асяроддзяў, што дае многа станоўчых вынікаў.

**Адам БОБРЫК**

Фота Іааннны ЧАБАН



# Адзіная такая бібліятэка

Быццам маленькі востраў тарчыць у акіяне чужыны беларуская бібліятэка айца Надсана ў Лондане. Некалькі квадратных метраў айчыны. Кропля вады для паміраючых ад смагі эмігрантаў. Беларуская бібліятэка ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы — як жыта ў хлебе, як вада ў калодзежы, а можа толькі рэлікт растаючага ў пальшчызне мінулага.

— Гэта не рэлікт, — пярэчыць маім вывадам Ангеліна Масальская, загадчыца беларускай бібліятэкі ў Гайнаўцы. — Пражывае тут шмат нацыянальнасцей, але большасць мясцовага насельніцтва лічыць сябе беларусамі. Беларуская мова прысутнічае ў мясцовых школах на ўсіх узроўнях адукацыі. Жыве яна таксама ў некаторых сем'ях. У падгайнаўскіх ці падбельскіх хатах галоўнае месца пераважна займае гаворка. Нашым дзецям бліжэй да кніжкі на гаворцы, чым на літаратурнай мове. Цераз тэксты на гаворцы яны атаясамліваюцца са сваёй малой айчынай, рыхтуюцца да пазнейшага знаёмства з літаратурнай беларушчынай. Так прынамсі было ў маім выпадку. Асабіста падзяляю погляды і намаганні спадара Максімюка і Аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах". Гаворка гэта таксама адзіны спосаб кантакту з найстарэйшым пакаленнем рэгіёна. Менавіта пенсіянеры з'яўляюцца асноўнымі карыстальнікамі нашай бібліятэкі. У адрозненні ад людзей у працаздольным узросце яны могуць дазволіць сабе на знаёмства з класікамі беларускай літаратуры.

### — А цяпер пра адметнасці бібліятэкі...

— Адзінае месца ў Польшчы з такой колькасцю беларускіх кніжак. Тут зберагаецца, між іншым, багаты архіў пісьменніка і даследчыка беларускага фальклору Міколы Гайдука. Бібліятэка ўскладае на мяне адказнасць за перадачу беларускай спадчыны маладому пакаленню.

### — Кірыліца і маладое пакаленне...

— Вельмі складаная справа. Вядома, лягчэй ім карыстацца лацінкай. Нашы дзеткі паланізаваныя. Урокі рускай мовы, фундаменты засвойвання кірыліцы, з году ў год становяцца менш папулярнымі. Іх месца займае, у асноўным, англійская мова. На знаёмства з беларускім букваром могуць разлічваць толькі дзеткі, якія з першага класа пачатковай школы ўдзельнічаюць ва ўроках беларускай мовы. Але нават і іх больш прыцягвае лацінка. Калі мяне ў дзяцінстве рыхтавалі да ўдзелу ў школьных выступленнях ці конкурсах, вершыкі і песні былі запісаны кірыліцай. Так было прынята і ніхто не супраціўляўся. Сёння ў такіх выпадках аблягчаем вучням лёс і замест кірыліцы прапануем ім беларускую мову ў польскім варыянце. Запавоціць паланізацыю толькі аднымі ўрокамі беларускай мовы ў школе — немагчыма. У гэтым павінны дапамагчы таксама дамы культуры.

### — У такім кантэксце раскажы пра Тваё вызначэнне беларускай кніжкі...

— Кніжкі, выдадзеныя на гаворцы, напрыклад Музеем малой айчыны ў Студзіводах, таксама беларускія. Імі асабліва захапляецца мясцовае насельніцтва. Польскамоўныя выданні, прысвечаныя беларускай тэме, патрэбныя паланізаваным беларусам і людзям звонку. Гэта адзіны спосаб, каб паказаць ім нашае духоўнае багацце.

### — Чым займаешся тут штодзень?

— Апошнім часам прыватныя донары прыносяць нам шмат кніжак, якія афармляю з вялікай прыемнасцю. Гэта ж так цікава гартаць іх старонкі, знаёміцца са зместам. У асноўным, цягам дня выконваю шмат іншых абавязкаў, зусім не звязаных з працай у бібліятэцы. Вядома, знаходзіцца яна ў будынку Беларускага музея ў Гайнаўцы, і таму штодзень займаюся і бібліятэкай, і музеем. Бывае, што карыстальнікі бібліятэкі вымушаны чакаць, пакуль я вярнуся з музея, іншым разам чакаюць мяне турысты, якім паказваю і распавядаю пра выстаўкі і гісторыю рэгіёна. Праўду кажучы, працы тут шмат, а нас, працаўнікоў, як на лякарства. Гэта асабліва балюча адчуваецца ў турыстычным сезоне.

* * *

37-гадовая гайнаўянка, выпускніца беларускага і польскага філалагічных факультэтаў Варшаўскага ўніверсітэта, апынулася ў беларускай бібліятэцы зусім выпадкова. Вельмі хацела працаваць у школе, але толькі тры гады там пратрымалася. Тут якраз вызвалілася адно працоўнае месца.

— Першым, хто мяне сустрэў і шчыра прывітаў, быў Аляксей Харкевіч. Ніколі гэтага не забуду. Усе працаўнікі музея былі ў водпусках і рыхтаваліся да Каляд, а я з вялікім хваляваннем прымала наведвальнікаў і тэлефонныя званкі. Раптам у сакратарыят увайшоў Алёша:

— Гэта ты тут? — выпуліў вочы ад здзіўлення. — Ах, як я цешуся.

Затым моцна мяне абняў і пацалаваў. Адразу стала весялей. Помню нават гадзіну нашай першай сустрэчы. Паміж 12.00 і 12.30 дня. Кожны дзень паміж 12.00 і 12.30 спадар Алёша прыходзіў у музей з пытаннем:

— Што чуваць? Што новага?

І так было восем гадоў маёй тут працы. Нават па кроках я яго пазнавала.

* * *

### — Ці любіш чытаць?

— Люблю. Заўсёды я чытала шмат, але цяпер на гэта проста не хапае мне часу. Не помню, калі апошні раз я сядзела з кніжкай. У дзяцінстве часта слухала аповедаў сваёй прабабулі Харытыны, з якой жылі мы ў адной хаце. Менавіта яна навучыла мяне першых малітваў. Гэта былі часы вечаркоў, супольных аповедаў і спеваў. Шчыра кажучы, месца кніжкі займала тады песня. Добра спяваў мой дзед і яго сястра — удзельніца гайнаўскіх царкоўнага і беларускага хароў. Найбольш запомнілася мне „Ой, сівы конь бяжыць". Сябравалі мы з жанчынай, якой дачка працавала ў кнігарні ў Чанстахове. Ад яе мы атрымлівалі рускія казкі ў перакладзе на польскую мову. Потым у пачатковай школе беларускія кніжкі чытала нам Вольга Сянкевіч. Гэта яна заразіла мяне любоўю да беларускай літаратуры. Я проста слухала, глядзела на яе і думала: „Калі я сама навучуся чытаць па-беларуску?". У ліцэі ў першую чаргу сягала я па беларускую літаратуру, разважаючы пра што Мележ мог бы напісаць у чарговай частцы сваіх „Людзей на балоце". Жыву ў Польшчы ў двухмоўі, не з'яўляюся беларускай нацыяналісткай, але пра сваё, роднае не забуду ніколі. Усё-такі па мове і традыцыі бліжэй нам да беларусаў. Гэта падкрэсліваем мы самі, і так нас бачаць іншыя.

### — Будучыня бібліятэкі...

— Большасць нашых сталых карыстальнікаў гэта пенсіянеры. Але ёсць бацькі, якія прыводзяць сюды сваіх дзяцей. І менавіта ў іх цэлая надзея на нашае далейшае існаванне.

**Гутарыла Іаанна ЧАБАН**

# Па мінскіх слядах мастацтва (1)



■ Сяргей Кірушчанка перад сваёй працай на выставе «Сацыяльная рашотка»

У Мінску з Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі (РТБД), дзе свае спектаклі на працягу трох дзён у сярэдзіне траўня паказаў беластоцкі Драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі, выбіраўся я зараз пасля поўдня, між іншым, у сталічныя галерэі і музеі. Аднаго разу, стоячы на прыпынку, на шырокім і зіхатлівым ад чысціні — як і іншыя вуліцы цэнтральных раёнаў Мінска — праспекце Машэрава, я стаў сведкам сцэны з паўсядзённага жыцця. На прыпынку былі толькі я, 60-гадовая жанчына і 20-гадовы малады чалавек. Маладзён кінуў скамячаную паперку памеру білета на тратуар. Бачачы гэта, жанчына хутка падышла да хлопца і, гледзячы яму прама ў вочы, несучымся далёка па Машэрава голасам, не цярпеўшым ніякіх пярэчанняў, крыкнула па-руску:

— Вы не любіце сваёй радзімы, сваёй сталіцы! Вы не можаце быць з Мінска! Хто з Мінска, той не засмечвае сваёй любімай сталіцы!

На гэта малады чалавек, спрабуючы захоўваць спакой, не ўцякаючы вачыма ад яе зроку:

— Я з Мінска і кахаю Мінск. Я з Мінска. Я кахаю Мінск...

Калі яшчэ гучала спакойнае, але моцна выказанае па-беларуску, «кахаю» ў другі раз, пад'ехаў трамвай. Малады чалавек сеў. Ён стаяў пры кабіне кіроўцы. Дзверы салона некаторы час заставаліся адкрытымі. Жанчына адным рухам выцягнула з сумачкі мабільнік, накіравала яго на «смецяра» і зрабіла яму фота. Прамармытала шэптам: «Ну, будзеш кахаць яго яшчэ больш, калі цябе ацтрафуюць».

Я сеў у наступны трамвай і адправіўся ў галерэю «Ў», Цэнтр сучаснага мастацтва, Галерэю 67...

Будучы амаль пяць дзён у Мінску, я не мог не пабачыць прадстаўленай у гэты час у Нацыянальным гістарычным музеі выставы «Далі і Пікаса», на якой экспануюцца больш за 200 работ (графіка, кераміка, скульптура) легендарных іспанскіх мастакоў з прыватнай калекцыі рускага бізнесмена Аляксандра Шадрына. Сваю калекцыю ён стварыў за апошнія 15 гадоў, купляючы творы ў найбольш вядомых аўкцыённых дамах свету, такіх як Крысці. Здалёк я толькі зірнуў на дзве выставы з нагоды 70-й гадавіны заканчэння Другой сусветнай вайны, якія ў маі мусілі адбыцца ў кожным дзяржаўным музеі і галерэі ў Беларусі (падобна было і з выступамі ў тэатрах, музычнымі мерапрыемствамі ў канцэртных залах і г.д.). Асабліва ў вочы кінулася мне на выставе дваццаць агітацыйных сатырычных плакатаў-газет «Раздавім фашысцкую гадзіну», якія ў 1941 годзе выдаваліся ў Гомелі, а з наступнага года да канца вайны — у Маскве. Рэдактарам сатырычнага выдання быў Кандрат Крапіва. Разам з ім працавалі, між іншым, Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны, Пятрусь Броўка і Пятро Глебка. Плакат-газета распаўсюджвалася ў тыле ворага партызанскімі атрадамі. Пасля вайны выданне пачало выходзіць як сатырычна-гумарыстычны часопіс «Вожык».

Расчараваны тым, што я не магу сабе дазволіць набыць каталог выставы «Далі і Пікаса» (115 тыс. рублёў), паехаў я ў самы прэстыжны ў Мінску, прызнаны ў свеце, шматгранны ў дзейнасці мастацкі цэнтр — Галерэю сучаснага мастацтва «Ў». Дабраўся я за некалькі гадзін да новага вернісажу. Два дні таму скончыўся тут гучны выставачны праект-дакумент «Мінск. Нонканфармізм 1980-х», якога куратарам быў Артур Клінаў, канцэптуальны мастак (жывапісец, перформер), пісьменнік, фатограф, кіраўнік культавага альманаха «pARTisan» (гутарка з ім не толькі пра гэты праект — у бліжэйшы час). Калі я ўвайшоў у галерэю «Ў», малады перформер, які займаецца, сярод іншага, вулічным мастацтвам, Міхась Мішук аклейваў сцяну побач з галерэяй выразанымі з паперы, каляровымі выявамі вадалазаў. Узнікаў з іх своеасаблівы «дождж».



■ Міхась Мішук стварае дождж з вадалазаў на сцяне ля галерэі «Ў»

Яго вадалазы некаторы час з'яўляюцца ў Мінску ў розных месцах, напрыклад, на беразе забетанаванай Свіслачы або на старых дамах, прызначаных на знос:

— Такім чынам я хачу звярнуць увагу на гарадскі міф як частку яго тканкі, — клеіўшы, расказваў мне малады мастак.

У сярэдзіне галерэі «Ў» я трапіў на апошнія падрыхтоўкі да выставы «Сацыяльная рашотка», пяці ўжо прызнаных мастакоў мінскага маладога і сярэдняга пакалення. Як адзначыла яе куратарка Ілона Дзяргач, тэмай з'яўляецца «ўключэнне і выключэнне чалавека з паўсядзённага жыцця», дзе «тоеснасць паміж бачным і рэальным (рэальным і віртуальным, міфам і побытам) выяўляецца за кошт іх узаемадзеяння». Ужо сама арганізацыя прасторы галерэі падчас гэтай прэзентацыі робіць уражанне сеткі. Сяргей Шабохін, сакуратар праекта і адзін з экспануючыхся ў ім мастакоў распавёў мне:

— У вытоках ідэі гэтай выставы ляжыць прыклад дзвюх груп, якія былі сфарміраваны ў рамках папулярнай у Беларусі сацыяльнай сеткі «В контакте» (як Facebook): «Пеўні Мінска» і «Курыцы Мінска». Першай была група «Курыцы Мінска». Хлопцы асуджвалі мінскіх дзяўчат, у тым ліку апісваючы як яны паводзяць сябе ў ложку, як іх можна падчапіць, ці якія маюць венерычныя захворванні. «Всё очень гнусно». У адказ узнікла заснаваная дзяўчатамі група «Пеўні Мінска». Гэта вельмі абурыла Ілону Дзяргач і яна рашыла прааналізаваць абедзве групы і вывесці іх у аснову выстаўкі. Запрасіла сацыёлага Аляксандра Сарну, які прааналізаваў паводзіны груп і напісаў тэкст для выставы. Праект у канчатковым выніку разросся ў сваёй ідэі і філасофскім плане і таму Ілона запрасіла прыняць удзел у ім яшчэ мяне, Жанну Гладко, Сяргея Кірушчанку, Аляксея Лунёва і Аляксея Талстова.

Жанна Гладко паказала працэс знішчэння фартэпіяна бацькам, які перарабіў яго на столік. На яе праект складаюцца струны, той столік, відэа на якім відаць як бацька руйнуе фартэпіяна і аўдыязапіс як малая Жанна на ім іграе. Сяргей Шабохін:

— Гэта праца факусіруе сацыяльную сетку ў іх сям'і.

Аляксей Лунёў сваю працу — у выглядзе шэрагу цёмных прастакутнікаў па картах, размешчаных за сеткай у куце пакоя — прысвяціў самапрэзентацыі на сайтах сацыяльных сетак, якія становяцца — як сам мне адзначыў — пустым рытуалам вядучым да бяздушнага запісу «тут і цяпер». Аляксей Талстоў прадставіў інтэрактыўны аб'ект-планшэт, на якім знаходзіцца кнопка «я солгасен», і пасля таго, калі яе націснуць, з'яўляецца момант загрузкі, а затым зноў тая кнопка, значыць, тая акцыя да нічога не вядзе.

— Гэтая праца паказвае, што што б мы не рабілі з нашай нібыта свабодай у інтэрнэце і так націскаем камп'ютарную кнопку: згаджаемся, не чытаючы нават на што, — каменціраваў мне сакуратар выставы.

Ягоны твор, у сваю чаргу, з'яўляецца свайго роду картай, якая складаецца з 70 літар:

— Існуе на ёй шмат слаёў, яна гіпернаратыўная. Гэта як стадыі развіцця ідэалогіі. Яна прысвечана катэгорыям страху ў Беларусі, узаемаадносінам асобы і дзяржавы, злому ўплыву дзяржавы на індывідуальнасць на прыкладзе сацыяльнага цела чалавека і цела гарадоў, на прыкладзе Мінска і Наваполацка, адкуль я родам.

Сяргей Кірушчанка здаўна займаецца мастацкімі ўяўленнямі сетак. У яго жывапісных працах знішчаюць іх плоскасць, даюць прастор для шырокага тлумачэння, нават можна ў іх убачыць архітэктурную структуру Мінска. Аўтар распавёў мне:

— Ідэяй маіх «рашотак» з'яўляецца паказанне паралелізму свету. Тэма рэальнага і нерэальнага, знешняга і ўнутранага заўсёды мяне цікавіла. Інтэрнэт гэта паралельнае жыццё, і вельмі часта не мае ён ніякага дачынення да рэальнасці. Адно, як мы пазіцыянуем сябе ў сацыяльных сетках, і зусім іншае, як людзі бачаць нас. І гэта вельмі блізка да маёй творчай канцэпцыі. Грамадства стала інакш структураваца, у адпаведнасці з графікам сеткі. Гарызантальныя структуры пачалі функцыянаваць у рэальных умовах, а не толькі ў інтэрнэце. Інтэрнэт асабіста мала мяне цікавіць, акрамя некаторых сайтаў аб мастацтве, а сайты сацыяльных сетак — ужо зусім. Гэта свайго роду наркотык. Людзям робіцца прыемна, а кожны дзень яны жывуць нудна. Маладыя людзі не ведаюць, дзе адзін аднаго прыткнуць. Улада баіцца сацыяльных сетак. У некаторых краінах яны нават адыгралі рэвалюцыйную ролю: сабралі і з'ядналі. Прыкладам — падзеі ва Украіне. Улады ў нас іх баяцца, таму што гэта можа стаць нечаканай сілай, і Лукашэнка надалей баіцца за сваю ўладу, бо ён трус.

Пры нагодзе размовы пра выстаўку я даведаўся ад Сяргея Шабохіна, што ў канцы жніўня ў Беластоку ў галерэі «Арсенал» адкрыецца выстава «Збор», на якой будуць прадстаўлены рэпрадукцыі і арыгіналы сарака твораў сучаснага беларускага мастацтва. У той жа час дэталёвы інфамацыйны матэрыял аб выставе будзе змешчаны ў інтэрнэце:

— Гэта па сутнасці будзе разрэз розных мастацкіх стратэгій беларускага сучаснага мастацтва.

У наваколлі галерэі «Ў», кружачы вакол плошчы Перамогі, я шукаў таннае месца, каб задаволіць фізічны голад, што ў цяперашні час у Мінску нялёгкае. Тым часам у адным з адгалінаванняў плошчы, на сцяне Палаца мастацтваў, звязанага з беларускім Саюзам мастакоў, кінуўся мне ў вочы банэр з абвесткай пра выставу «Рэйтан». Я не ўтрымаўся і зазірнуў унутр. Паспяхова я трапіў адразу на намесніцу дырэктара Палаца Ганну Грыневіч. Яна растлумачыла, якім чынам Беларусь хоча адзначыць 275-годдзе з дня смерці Тадэвуша Рэйтана, а творы, што будуць тут паказаны, узнікнуць на адкрытым для ўсіх зацікаўленых асоб пленэры ў Грушаўцы (Брэсцкая вобласць), дзе нарадзіўся гэты навагрудскі пасол на варшаўскі падзельны сейм 1773 года, славуты супрацівам да яго канфедэравання:

— Рэйтан, як Міцкевіч ці Касцюшка, наш агульны, польска-беларускі герой. Гэта наша супольная гісторыя, — сказала на развітанне спадарыня Ганна.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl



# Зорка
для дзяцей і моладзі


# Новы конкурс беларускай песні



Міколка і Алесь Здрайкоўскія



Дарыя Каспэрук і Янка Васькоўскі

Калі хто нязручна адчувае сябе ў традыцыйнай песні, ён павінен паспрабаваць спяваць рэп. Дзеці і падлеткі якраз любяць авангардныя стылі ў музыцы. У час конкурсу «Беларуская песня», які 28 мая зладзілі ў беластоцкай ПШ № 4, не магло абысціся без такіх песень.

Вось браты Алесь і Міколка Здрайкоўскія вывучылі шэдэўр «Пра маму» Зміцера Вайцюшкевіча і рэпера Vincenta. Каб падняць такі выклік, хлопцы падзяліліся ролямі — Алесь спяваў, Міколка *рэпаваў* зусім не просты тэкст. Дуэт спрацаваў «на пяць». Захопленыя выступленнем сябры з усёй моцы білі ім брава. Менавіта, самай прыгожай справай у конкурсе была атмасфера сяброўства, а частку публікі складалі сябры са старэйшых класаў.

На сцэне прагучалі таксама песні на словы беластоцкіх аўтараў. Адважная Ніка Паўлоўская праспявала песню пра рыцарскага «Жук Жукевіча ў чорным фраку» на словы Міры Лукшы і музыку Анны Бабік, а прыгожы дуэт Дарыя Каспэрук і Янка Васькоўскі прыгадалі «Белы караблік» на словы Віктара Шведа і на музыку Генадзя Шэмета.

— Як гэта атрымалася, што многія дзяўчаткі спявалі «дарослыя» песні пра каханне? — пытаем у Аліны Ваўранюк, арганізаткі конкурсу.

— Бо такія песні дзеці спяваюць у хаце, — кажа настаўніца.

Рэпертуар быў разнавідны і ў значнай меры паказваў мары дзяцей. Таму два разы прагучала «Купалінка» і славутая «Стэфка» з рэпертуару рок-гурта «Крама». Першая наклікала думкі пра беларускі фэст на Купалле, другая — пра «Басовішча».

— А я падумала, каб заспяваць песню па-іспанску і па-беларуску, — кажа Наталля Харужая. — Чаму? Бо зараз, калі еду ў машыне, заўсёды спяваю гэтую песню... — У прапанове Наталькі луналі ўжо мары аб канікулах і экзатычных падарожжах.

Для пераможцаў конкурсу аб'яднанне АБ-БА прыдумала арыгінальныя ўзнагароды, аднак іх прозвішчы будуць агучаны 17 чэрвеня г.г. у час падвядзення вынікаў школьнага навучальнага года 2014/2015, якое сёлета пройдзе ў Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі. Менавіта, там яшчэ раз заспяваюць нашы сябры.

***Зорка, фота Ганны Кандрацюк***

# УВАГА КОНКУРС! № 23-15

## Загадкі з роднай хаткі

Мной дзяўчынак называюць.
А як толькі зацвітаю —
З гудам рупным і вясёлым
Да мяне лятаюць пчолы.
Л...

Цёмна-сіняя рагожка
Скрозь усеяна гарошкам,
Пасярод акрайчык хлеба.
Хто адкажа так, як трэба?
(Н..., З...., М....)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 14 чэрвеня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадкі № 19-15: бяроза, пеўні, камар. Узнагароду, CD з 12 беларускімі казкамі, выйграў Міхась Тапалянскі з Нарвы. Віншуем!

# Дачушка Дунька

— Дуню, мо бачыла дзе мой гальштук? Дуню, дзе наш абрус? Хадзі да мяне!

Ад раніцы ў хаце панаваў такі настрой. А чаму? Да нас меў прыехаць хтось важны. Пра гэта я даведалася ад мамы, якой сёння ад хвалявання ўсё хавалася і знікала. Падышла я да бабулі, якая клікала мяне ўжо можа соты раз.

— ПадмяцІце дарожку!

— Толік! — я паклікала брата. Ён быў раскудлачаны і ў шведрыку, ды не выглядаў як заўсёды. — Ідзем! — я пацягнула Толіка за руку.

— Мусім прыбраць гэту сцежку, каб блішчала, — сказаў Толік і выцер пот з ілба.

— Канец! Навялі парадак!

— Зажаніце яшчэ карову на луг! — сказала бабуля.

Вывелі мы нашу Мусю з хлява. У пэўны момант яна затрымалася на сцежцы і зрабіла вялікі каровін «пляцак». Паглядзела я і падумала: «Што будзе далей?». А яна ішла па падмеценай сцежцы і рабіла ўсё большыя «бліны».

— Мама! Бабуля!

У мяне, Дуні, якая ніколі не плакала, закружыліся слёзы ў вачах.

— Мятла, шчотка, дайце што-небудзь! Мама бегала кругамі.

— Мама! Там едуць тата з дзедкам! — крычаў Толік.

Праўда, перад хатай затрымалася фурманка, з якой сышлі чаканы госць і тата.

— Мелі мы пазней прыехаць, — сказаў тата, — але конік пайшоў хутчэй!

У таты смяяліся вочы, але калі ўбачыў мяне ў рабочай кашулі, Толіка з раскудлачанымі валасамі, маму ў старой сукенцы, бабулю ў фартуху і зорку дня — каровін «пляцак», ён прыадкрыў ад здзіўлення рот і паглядзеў на мяне з дакорам. Мне было сумна.

— *Буэнас дІас*!* — дзедка пацалаваў ручку мамы, бабулі і маю.

— Не трэба! — я заўсміхнулася. Але калі мама паглядзела на мяне, я змоўкла.

Дзедка таксама заўсміхнуўся і рушыў сцяжынай.

— Дзя... — я не магла ўжо нічога больш зрабіць. Ён сваім новым ботам ступіў на «блін» нашай шаноўнай каровы.

— *Сі***, — сказаў з усмешкай дзед. — Я толькі цяпер адчуваю сябе дома!

— Запрашаю ў сярэдзіну! — уздыхнула мама з палёгкай.

«Файна было сёння», — думала я, лежачы ў ложку і чакаючы сну. З другога пакоя чуваць было пахрапванне дзедкі, які прыехаў да нас з Аргенціны.

**Лена Сульжык,**
**IV клас ПШ у Гарадку**

** Буэнас діяс (ісп.) — добры дзень*
*** Сі (ісп.) — так*

# ВЕЧАРЫНА

## з беларускім словам і песняй





13 мая 2015 г. у Комплексе школ у Гарадку адбыўся «Беларускі вечар». Свята прыдумалі Іна Зуева, валанацёрка з Беларусі, і таварыства «Анавой» пад кіраўніцтвам Анны-Сафіі Папай. Мерапрыемства адбылося ў рамках праекта, прафінансаванага праграмай «Эразмус+».

Настаўнікі нашай школы і каардынатары праекта пастараліся, каб сустрэча з бацькамі, вучнямі і жыхарамі мястэчка прайшла ў сяброўскай атмасферы.

Вечарыну адкрыла спадарыня Анна Грыцук, дырэктар школы. Далей пайшлі мастацкія выступленні. Спачатку выступілі першакласнікі, яны праспявалі песні «Паяц» і «Пра добрую мышку і мудрую кошку». За гэта былі ўзнагароджаны гучнымі бравамі. Гімназісты падрыхтавалі тэатральную сцэнку паводле кніжкі «Мышка Пік-Пік». П'еса выклікала ўдзячную ўсмешку сабранай публікі. Гледачы былі пад уражаннем. Ролю Бацькі іграла спадарыня Іна, Оля Яроцкая выступіла ў ролі Мышкі, Эліза Матус — у ролі дзяўчынкі Веранікі, Бартэк Нос — у ролі Маці і Габрыель Пятэльскі — у ролі ката Пепіты. Вучні вялі сябе як прафесіянальныя акцёры, і нават у час нечаканых сітуацый, калі маленькія дзеткі на працягу спектакля спрабавалі ўключыць кардонны тэлевізар альбо заглядалі ў гаршчок з кашай, дзе схавалася шкодная мышка, нашыя маладыя акцёры не разгубіліся.

У народнай вопратцы выступіў калектыў «Казка». Дзеткі праспявалі песні «Жаўраначка» і «Рамонка». Габрыся Грэсь прадэкламавала беларускія вершы «Бабёр з Бабраўнік» і «Пра дзяўчыну Паліну».

Цікавымі, асабліва для старэйшых, была аўтарская прэзентацыя вершаў Анатоля Парэмбскага з Валілаў. Пасля вясёлыя гісторыі са свайго жыцця расказаў народны паэт з Гарадка Ян Федзюкевіч. Вядома, ён апавядаў вершам. Сямейны калектыў «Хутар» супольна з Інай Зуевай праспявалі песні, пачынаючы з традыцыйнай «Беларусачкі» і канчаючы жартоўным «Суседам». Мастацкую частку завяршыў верш «Дзе мой край» Уладзіміра Караткевіча. Твор разам са словамі падзякі сказала Іна Зуева.

Пасля была прэзентацыя беларускіх страў, пачастунак і сяброўскія бяседы.

**Альжбета Раманчук,**
**настаўніца беларускай мовы ў Гарадку**

## Вершы Віктара Шведа



### Тыл і фронт

— Даражэнькі татка,
Спытаў сынок Саша,
— Чаму камандуе матка
У сямейцы нашай?

— Сям'я для мужчыны
Гэта тыл вядома,
Ну а для жанчыны
Гэта фронт дома.

### У банкамаце

Працавітая маці
Навёўшы лад у хаце,
З малым сынком Ігнатам
Пайшла да банкамату.

— У гэтым банкамаце
Відаць сядзіць наш татік
І ён, такі харошы,
Выплачвае нам грошы.

## «Як трэба зарабляць грошы?»

### (грузінская казка)

У аднаго чалавека сын быў ленагуз. Яму было ўжо дваццаць гадоў і ён да гэтай пары не зарабіў ні аднаго рубля. Бацька гадаваў яго ўсё жыццё. Аднак бацька пастарэў і стаў хварэць. Ён паклікаў сына і кажа:

— Заробіш рубель, усю гаспадарку табе пакіну. Не заробіш, усю маёмасць перадам чужому.

Што тут зрабіць? Сын прагнуў грошай, але і да работы ў яго рукі не прыставалі. А маці жаль зрабілася хлопца і яна рашыла яму дапамагчы. Паклікала і кажа:

— Вось, сынок, вазьмі гэты рубель і пабудзь дзесь да вечара. Вечарам прыйдзі дахаты, пакажы грошы бацьку і скажы, што ты іх запрацаваў.

Сын зрабіў як параіла маці. Узяў грошы, кусок хлеба і кусочак сыру ды адправіўся ў горы. Цэлы дзень ён еў, піў, вылежваўся на траве, лічыў птушак на небе, а вечарам вярнуўся дамоў і аддаў бацьку рубель. Бацька агледзеў грошы з усіх бакоў і кінуў іх у агонь.

— Не, ты гэтых грошай не зарабіў, — сказаў ён.

Сын толькі засмяяўся. «Не верыш, не трэба», — пацінуў плячыма і пайшоў спаць.

Маці зразумела, што немагчыма ашукаць мужа. Яна на другі дзень паклікала сына і кажа:

— Ну, сынок, трэба каб ты за працу ўзяўся, інакш уся твая маёмасць прападзе.

Паслухаў ленагуз маці. Увесь дзень ён працаваў, а калі вярнуўся, уручыў грошы бацьку. Бацька зноў сказаў, што сын не працаваў, і кінуў грошы ў агонь. Сын кінуўся да печы і голымі рукамі выняў рубель.

— Я цэлы дзень гараваў, каб зарабіць гэтыя грошы, а вы, бацька, кідаеце іх у агонь!

Паглядзеў на яго бацька і кажа:

— Ну, цяпер я веру, што ты сам зарабіў гэтыя грошы. Ты чужых грошай не шкадаваў, а свае шануеш. Памятай, сынок, мае словы: будзеш працаваць, будуць у цябе грошы, усё ў цябе будзе. А не будзеш працаваць, дык і чужыя грошы табе не дапамогуць.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 23-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Адказ на крыжаванку № 19:

Нос, май, пакой, страла, травень, рамень, арак, ой, іва. Ом, строй, астра, рама, паверх, палена, канькі, сайт, ява.

Узнагароды, карэктары, выйгралі **Магдалена Мішчук** з Арэшкава, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Іаанна Нікіцюк, Магда Рошчанка** з Бельска-Падляшскага, **Адам Нарбут** з Шудзялава, **Магда Пташынская** з Нараўкі, **Дам'ян Іванюк, Агнешка Саўчук** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Міхал Тапалянскі** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Żaba | | Trzcina | Aparat | Tło | | Tom |
| Miednica | | Opalenizna | | | | | |
| | | | Rama | | No / Nuta | | |
| Baran | | | | | | Dar | |
| Ogród | | | | | | | |
| | Amator | | | | | | |
| Krasomówca | | | | | | | |


■ Сустрэча пасля спектакля „Гугулы”

# Мінскі поспех «Вянгеркі»

**Драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі несумненна заваяваў сэрцы мінскай аўдыторыі. Можна гэта з упэўненасцю сказаць пасля яе рэакцыі на агляданыя ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі (РТБД) тры спектаклі акцёраў нашага тэатра: — «Гугулы», «Танга забарона» і «Шэкспір». Усе яны былі прыняты бурнымі апладысментамі, а падчас сустрэч у канцы кожнага з іх гледачы не шкадавалі пахвал. Таксама прасілі ў беластоцкіх акцёраў аўтографы. Беластоцкі тэатр гасцяваў у беларускай сталіцы ў рамках рэвізіту. У сярэдзіне красавіка РТБД паказаў у Беластоку два свае спектаклі: «Адвечную песню» і «Раскіданае гняздо». І гэта не канец супрацоўніцтва абодвух тэатраў.**

Як толькі ў Мінску паявілася інфармацыя аб спектаклях «Вянгеркі» 13-16 траўня, квіткі на яго выступленні былі прададзены вокамгненна. Асабліва далёка рана іх не было ўжо на «Танга забарона» і «Шэкспіра», які нядаўна на прэстыжным Міжнародным моладзевым тэатральным форуме «M.@rt.kontakt» у Магілёве выйграў узнагароду спецыяльна прыдуманую журы маладых крытыкаў «Лепшы тэатральны комікс». Мінскім гледачам быў гарантаваны беларускамоўны сінхронны пераклад (выдатна зрабіла гэта Ганна Мордань), які адсвечваўся на экране над сцэнай. Большая частка аўдыторыі (сярод якой заўважылі мы прадстаўнікоў польскай амбасады ў Мінску) засталася на сустрэчах з выканаўцамі. Мінчане былі зацікаўлены не толькі пабачанымі спектаклямі, але і тэатрам у Польшчы ў цэлым ды кантэкстамі, у якіх ён працуе. У першы дзень ставіліся «Гугулы» Віялеты Гжэгажэўскай, у рэжысуры дырэктаркі беластоцкага тэатра Агнешкі Карыткоўскай-Мазур, дзе галоўную ролю адыгрывае Катажына Сергей і побач з ёю выступаюць Іаланта Бароўская, Славамір Паплаўскі і Матэвуш Вітчук, а жывую музыку выконвае ансамбль «Transkapela». У час сустрэчы пасля спектакля «Гугулы» Матэвуш Вітчук, адухоўлены ўспрыняццем аўдыторыяй спектакля, кінуў да яе паўжартам:

— Я хачу жыць тут.

Сярод пытанняў гучала: наколькі тэматыка з часу савецкага падпарадкавання блізкая польскаму гледачу?

Матэвуш Вітчук:

— Многія людзі па-ранейшаму тужаць па ПНР, як і, верагодна, многія з вас па СССР.

Славамір Паплаўскі:

— Мабыць, проста таму, што яны тады былі маладыя.

Адзін з беларусаў з залы:

— Цяпер па камунізме ўжо ніхто з маладых не сумуе.

Цікавіліся, у прыватнасці, рэлігійным аспектам спектакля. Хтосьці з аўдыторыі спытаўся, ці ў Польшчы «не перабольшваецца з рэлігійнасцю». Агнешка Карыткоўская-Мазур:

— Чым больш ідэалагічнай становіцца рэлігійнасць, тым становіцца больш перабольшанай (...). Сама інфармацыя можа быць таксама ідэалагічнай.

Беларускія гледачы, хвалячы «Гугулы», казалі аб «велізарнай энергіі ідучай са сцэны» (гэтая фраза гучала таксама пасля іншых спектакляў), або «бліскучым фінале». «Гугулы» былі названы нават «стыльным цудам». Не хвалі захаплення музыкай ансамбля «Transkapela».

— Слухаючы яе, я адчуваў, быццам я на вяселлі ў вёсцы, — прызнаўся адзін глядач.

## Энергетычныя і арганічныя акцёры

На другі дзень мастацкі кіраўнік РТБД, рэжысёр Аляксандр Гарцуеў — пасля прэзентацыі спектакля «Танга забарона», які спасылаецца на традыцыі міжваеннага кабарэ, у рэжысуры і па сцэнарыі ды распрацоўцы руху Мацея Заклічынскага — у размове з «Нівай» сказаў:

— Гэты спектакль з'яўляецца доказам, што культура кабарэ ў Польшчы працягваецца да гэтага часу. З першай сцэны відаць, што ў вашай краіне працягваецца традыцыя гэтага тэатральнага жанру: з танцам, песнямі, прамым кантактам з аўдыторыяй. Гэта было цікава для нашай аўдыторыі, таму што ў нашай краіне няма такіх традыцый адносна кабарэ. Быццам мы ведаем кабарэ, але няма такіх традыцый кабарэ. На сцэнах рыхтуем хутчэй капуснікі. Няма такой лёгкасці ў паводзінах акцёраў на сцэне. І, як было відаць, беларусам гэта вельмі спадабалася.

Святлана Навуменка, пастаянная рэжысёрка РТБД, у сваю чаргу дадала:

— Мне здаецца, што кабарэ, як тэатральны від, гэта вельмі польскі прадукт, ад пакаленняў распрацаваны ў Польшчы. Прытым тыя акцёры тут вельмі арганічныя. Гэты від на нашых сцэнах трэба было б спецыяльна асвойваць. Тое, што відаць у акцёраў беластоцкага тэатра, гэта спецыфічны спосаб функцыянавання на сцэне: поўная свабода. Я, як рэжысёр, не павінна карыстацца паняццямі: падабаецца — не падабаецца, прыемны — непрыемны, але гэты спектакль быў проста прыемны. Элегантны! Яго атмасфера была вельмі цёплай. Я была зачаравана камернасцю і інтымнасцю. Нават не трэба было выкарыстоўваць надпісаў-перакладаў, усё было зразумела.

У той час як на трэці вечар, пасля чаканага ў Мінску «Шэкспіра» Даны Лукасінскай, у рэжысуры Агаты Бізюк, адна з вядучых актрыс адной з самых прэстыжных у Мінску сцэн Людміла Сідаркевіч сказала ў размове з «Нівай», падзяліўшыся меркаванне аўдыторыі:

— Уражанні самыя добрыя Спектакль класны, сучасны і дасціпны! І вельмі актуальны. Акцёры працуюць цудоўна! Калісьці Станіслаўскі марыў аб сінтэтычным акцёры — вось яны і ёсць сапраўдныя сінтэтычныя акцёры — спяваюць, выдатна рухаюцца, вельмі энергетычныя і заразлівыя. І вольныя! Брава! Як я заўважыла, публіка ўспрыняла гэты спектакль вельмі добра, а нашы акцёры смяяліся падчас яго ўвесь час.

Пасля спектакляў акцёры з Беластока былі вельмі ўсхваляваны ўспрыняццем мінскай аўдыторыяй і ўзрушаныя. Бернард Мацей Баня (грае ў «Танга забарона» разам з Агнешкай Мажэйка-Шакоўскай, Монікай Заборскай-Врублеўскай, Пятром Шакоўскім і Матэвушам Вітчуком ды ў «Шэкспіры» побач з Агнешкай Макоўскай і Пятром Шакоўскім):

— Успрыняцце аўдыторыяй было фантастычнае. Аказваецца, што пачуццё гумару з'яўляецца такім жа самым у нас і ў Беларусі. Больш за тое, я ведаю, што ў аўдыторыі былі і прафесіяналы з тэатра, і звычайныя гледачы, і іхняе ўспрыняцце было такое ж самае, у роўнай ступені сардэчнае.

Катажына Сергей:

— Іграецца, вядома, тут па-іншаму, але ў цэлым гэта хутчэй пытанне ігры перад замежнай аўдыторыяй. Аднак моўны бар'ер з'яўляецца праблемай, нягледзячы на надпісы. Некаторыя метафары, словазлучэнні, рэгіяналізмы мала прабіваюцца, а якраз «Гугулы» абапіраюцца ў першую чаргу на тэкст. Спектакль звязаны з польскім рэгіяналізмам нават не Падляшша, а Чанстаховы, і з папярэдняй эпохай у нашай краіне (ПНР — М. Х.). Тым чынам, я адчула, што многія прыколы не з'яўляюцца відавочнымі. Тым не менш, гледачы ўспрынялі нас вельмі сімпатычна і паспрабавалі ісці ў нагу з намі, быць з намі. Энергія аўдыторыі, якая заўсёды адчуваецца акцёрамі са сцэны, была надзвычай добрая.

Пры нагодзе дадала:

— З маіх назіранняў беларускай сцэны вынікае, што тэатральная традыцыя тут не такая далёкая, як у нас, і вельмі вялікі ўплыў на яе меў савецкі час. Некаторыя тэатральныя традыцыі прышчапіў Савецкі Саюз, і яны працягваюцца і па сённяшні дзень. Беларускі тэатр, які я бачыла і раней, і ў час цяперашняй пабыўкі, а я кажу пра дзяржаўны, з'яўляецца тэатрам без рызыкі, са сцэнай моцна аддзеленай ад публікі. Польскі тэатр, і той больш на захад ад Польшчы, у тым ліку і наш у паказаных у Мінску спектаклях, больш выходзіць да гледачоў, няма чацвёртай сцяны. Я думаю, што на нашы выступленні прыйшлі тыя гледачы, якія гатовыя на яе разбурэнне ў беларускім тэатры. І вось таму кожны з паказаных намі спектакляў быў удалым. Нават у такой постмадэрніцкай прэзентацыі, у пластах сцэнічнага афармлення, тэксту, акцёрскай ігры, пастаноўкі і рэжысуры, а нават і музыкі, як у спектаклі «Шэкспір», нягледзячы на моўны бар'ер і іншую тэатральную традыцыю, гледачы эмацыйна былі вельмі блізка з акцёрамі.

Тэхнічная каманда беластоцкага драмтэатра не хавала захаплення і павагі да працы сваіх беларускіх калег. Міхал Кашковяк, акустык:

— Я ўражаны не толькі высокай якасцю абсталявання, якое мае РТБД, чаго наш тэатр можа пазайздросціць, але, перш за ўсё, прафесіяналізмам, добрасумленным падыходам да працы і велізарнай прыязнасцю ўсіх супрацоўнікаў беларускага тэатра. У міг яны служылі нам дапамогай

## Пад уражаннем ад Мінска

Нашы акцёры і апошні экіпаж «Вянгеркі» з нагоды свайго візіту ў Мінск меў магчымасць вывучыць самастойна і з гідам горад, а таксама прыняць удзел у некаторых мастацкіх, не толькі тэатральных, мерапрыемствах беларускай метраполіі. Паглядзелі сярод іншых выставу «Далі і Пікаса» ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь і прынялі ўдзел у адкрыцці ў галерэі «Ў» выставы «Сацыяльная рашотка» (пра выставы і наогул пра мастацкае жыццё Мінска ў гэтым вымярэнні напішам у бліжэйшы час). У тэатральным плане былі ўражаны стаўленым у той час «Мястачковым кабарэ» (спектакль з песень даваенных кабарэ з раёнаў Заходняй Беларусі) у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы ці беларускага кабарэ-гурта «Сярэбраная свадзьба», званага мастацка-тэатральным балаганам, створаным у 2005 годзе. На зваротным шляху акцёры дзяліліся з «Нівай» таксама ўражаннямі «ад горада». Бернард Мацей Баня быў у Мінску другі раз:

— Мінск уражвае: гэтыя велізарныя прасторы, буйныя артэрыі. Прыкметна адразу, што горад вельмі чысты і прыгожа асвятляецца ў вячэрні час. Я ўражаны выставай, але перш за ўсё людзьмі, беларусамі, якіх я сустракаў у галерэі «Ў». Яны нейкія іншыя, чым большасць на вуліцах Мінска. Можна ўбачыць у іх паводзінах, у тым ліку і ў тым, што яны кажуць, што цягнуцца яны хутчэй на Захад, чым на Усход. І няма ў іх чагосьці такога, з чым часта можна сустрэцца ў Польшчы ў адносінах да замежнікаў, закрытасці на людзей «звонку». Адчуваецца велізарная сімпатыя.

Катажына Сергей не толькі ў Мінску, але і ў Беларусі была ўпершыню:

— Жывуць тут вельмі прыемныя людзі пры першым кантакце, вельмі прыязныя, адкрытыя, гатовыя зацікавіць тым, што ў іх ёсць. У архітэктурным плане горад вельмі падабаецца: ён прэзентабельны. Ну, і вельмі чысты. Тэатры і музеі, у якіх я была, выглядаюць так, як у іншых еўрапейскіх гарадах. Мы былі на арганізаванай экскурсіі па горадзе. У яе ходзе, слухаючы нашага гіда, я адчувала, і пацвердзіла, што ёсць у Беларусі цэнзура, а моцная дактрына ўлады прысутнічае ў мысленні людзей, ва ўспрыманні Беларусі ў кантэксце свету і саміх сябе. І гэта мяне вельмі здзівіла ў кантэксце вельмі адкрытага свету беларускага тэатра і шырокай культуры, які хоча змен, абмену думкамі і кантактамі. Калі мы набліжаемся да паўсядзённага жыцця, ідэалагічная апрацоўка — яна таксама прысутная на Захадзе, але інакш — маніпуляцыя і цэнзура вельмі моцна бачныя.

Агнешка Карыткоўская-Мазур, падсумоўваючы «Ніве» візіт свайго тэатра ў Мінск, прызналася:

— Была гэта вельмі плённая паездка. Я вельмі ўражана прыняццем нашых спектакляў. Гэта паказвае тугу за такога віду тэатрам у Беларусі. Мы ў цяперашні час перамаўляемся з кіраўніцтвам РТБД наконт сумесных праектаў. Плануем чытанні, семінары, сумесную вытворчасць і супрацоўніцтва з рознымі мастакамі сцэны.

Яшчэ са сцэны РТБД у першы дзень гастроляў, перад аўдыторыяй, дырэктар падзякавала за ініцыятыву супрацоўніцтва паміж двума тэатрамі папярэдняму галоўнаму дырэктару гэтай мінскай сцэны акцёру Ігару Сігаву. Разам з цяперашнім генеральным дырэктарам РТБД Уладзімірам Карачэўскім абвясцілі шчыльнае супрацоўніцтва абодвух тэатраў да 2019 года. З польскага боку ў значнай ступені магчыма гэта дзякуючы фінансавай падтрымцы Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, якой дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Анатоль Вап асабіста меў нагоду назіраць у Мінску несумненны поспех беластоцкага тэатра.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Раенскі ваенны лёс

Яўгенія Нікалаюк: — Было чатырох братоў — мой тата, Хаманюк Мікалай, быў найстарэйшы. Пасля былі Міхал, Васіль і Аляксандр. Аляксандр быў наймалодшы — было яму тады дзевяць гадоў.

Мікалай Хаманюк: — А мне тады было шаснаццаць, я з 1926 года. Я ўжо падыходзіў пад расстрэл — трох юнакоў малодшых за мяне тады забілі. Тады забіралі немцы на работы. А мне тата аформіў справу з дарожным майстрам, які з Дэнісак быў, каб мяне ўзяў працаваць тут, на чыгунцы. І ён мяне ўзяў на чыгунку, таму я і астаўся. Калі б быў стаў на працу на час, то былі б забілі. А я з яшчэ адным сябрам пайшлі на працу раней, бо думалі, што адсюль забяруць у Германію. І так мы асталіся. Былі мы тады на чыгунцы, але калі пачалі Райск расстрэльваць, то мы ўцяклі. Забеглі мы да Налог, да маіх сваякоў. Але калі там даведаліся, што Райск расстрэльваюць, то злякаліся і не прынялі нас пераначаваць. Тады мы з Налог забеглі нанач аж да Баранкаў, да сваякоў. А тыя сваякі таксама баяліся, што можа даведаецца хто пра нас, можа солтыс данясе ці хто. І так тры ці чатыры дні таўкліся так па лесе — сабралася нас больш, тых што асталіся з бойні. Далучыўся да нас і Годзіна Пятро, якому было тады дваццаць — яму ўдалося ўцячы з месца расстрэлу. А ў той час арбайтсамт у Бельску сабраў нашых малодшых хлапцоў і мелі іх везці ў Германію. Майму сябру ўдалося закватаравацца ў ягоных сваякоў, а я падумаў — куды мне дзецца; я разам з братамі таксама падамся ў Германію. Я зайшоў у арбайтсамт, там пераначаваў, ніхто мяне там не прасследаваў, але на другі дзень мяне не прынялі; сказалі — адкуль прыйшоў, туды ідзі. Не паедзеш, бо ў нас палічаны, сколькі маем завезці, а больш не бярэм. І так я астаўся. Падаўся я да дзеда, да Гацькоў, адкуль была мая мама. Неяк удалося мне ўтрымацца ў дзеда, хаця і Гацькі былі правяралі. А братоў павезлі ў Германію. Я ў Гацьках, у дзеда, жыў некалькі гадоў, там ажаніўся, калі мне было дзевятнаццаць. Тады нашы, мае і жонкі бацькі дапамаглі нам пабудавацца ў Райску.

Яўгенія Нікалаюк: — А Васіля і Аляксандра завезлі да агародніка. Міхал быў найстарэйшы і ён працаваў у іншага гаспадара. Прыехаў нейкі з Бельгіі, які патрабаваў работнікаў, да капальні. І дзядзька Міхал падумаў, што няма яму да чаго вяртацца — бацькоў жа ягоных пабілі і пра братоў думаў, што іх таксама пабілі — і ён вырашыў ехаць на шахту ў Бельгіі. А да таго быў ён на акопах. Дзядзька Аляксандр у немца кароў даіў — трапіў ён да добрага пана, пра што не раз згадваў. 25 гадоў шукалі Міхала.

Аляксандр Хаманюк: — Некалькі дзён патрымалі нас у Бельску, у лагеры, а пасля пагрузілі ў таварныя вагоны, як быдла, і завезлі ў Прусію. Нас забрала баўэрка, а Міхала забраў гаспадар. Баўэрка мела маёнтак, а гаспадары там такія ж, як і мы тут — па некалькі, па сорак ці трыццаць гектараў. І калі гаспадар надаваўся на вайну, то яго забралі ў армію, а аставалася баўэрка. Нас забралі за Ольштын, у павет Моранг, — каля дваццаці кіламетраў ад Эльбланга. А Міхал быў ад нас таксама недзе каля дваццаці кіламетраў. Калі паднялі трывогу, то старэйшыя работнікі, разумнейшыя, паўцякалі. А такія дзеці, як мы тады былі, асталіся. Немцы білі свіней, грузілі іх на вазы і ўцякалі, у напрамку Берліна. Далі мне лейцы ў руку і так ехалі ў табары. Заехалі за Эльбланг, а туды танкі прарваліся, надляцелі савецкія самалёты і *кашу* ўсярэдзіне зрабілі. А мы кінулі фурманкі на шашы і хаваліся. І так хаваючыся зайшлі за табарам аж да Касцяжыны. У Касцяжыне зайшлі ў тартак, у тартаку пераначавалі. Нас забралі да сябе работнікі, што ў тартаку працавалі і мы ў іх пратрывалі чатыры тыдні, пакуль прыйшлі саветы. Саветы рабілі зборныя пункты, дзе размяркоўвалі каго куды. Адразу пасля праходу фронту чыгунка не працавала, толькі пазней і далей, калі ўжо была прыведзена ў строй. Нас саветы вызвалілі аж у Касцяжыне, шэсцьдзесят кіламетраў за Гданьскам.

Міхал быў здаровы, высокі, і яго забралі капаць акопы вакол Берліна. Іх вызвалілі амерыканцы і сказалі, што хто куды хоча, няхай туды і падаецца. І ўся тая група, у якой Міхал працаваў, падалася ў Бельгію.

Паязды курсіравалі, але да чыгункі трэба было яшчэ даставацца мо каля якіх ста кіламетраў. Самаходы „амерыканкі", крытыя, давозілі боепрыпасы з чыгункі пад фронт, а назад вярталіся пустыя. Нас там рыхтавалі да транспарту і калі вярталіся тыя „амерыканкі", то нас давезлі да станцыі. Нам, малодшым, давялося ехаць на платформе, бо старэйшыя займалі крытыя вагоны. Не ведаю — чатыры тыдні ці колькі мы ехалі, пакуль даехалі да Бельска. Набралі мы вайсковага абутку, і калі на станцыях сталі па трое ці чацвёра сутак, а есці не было чаго, мянялі іх на ежу. Прыбягалі на станцыю людзі і за, напрыклад, кілаграм саланіны аддавалі мы ім пару вайсковых ботаў. І так мы камбінавалі. Вярнуліся бадай пад Вялікдзень, яшчэ ў адкосах снег ляжаў. Прыйшлі мы з Бельска ў Гацькі, да дзеда. Пасля нейкі час жыў я з братам, Мікалаем. А пасля падаўся ў школу паперхай падрыхтоўкі, а прайшоўшы абучэнне працаваў у папяровых заводах у Язёрне, Пабяніцах, Крапкавіцах...




Галена Хаманюк, маці Мікалая, Міхала, Васіля і Аляксандра. **„Мама і тата кленчылі на тым бруку. Усе дарослыя з нашай вёскі, падзеленыя ў групы, стаялі там на каленях. Калі нас, малых дзяцей, немцы грузілі на самаходы, каб вывезці ў Бельск, мама хацела памахаць нам хустачкай, на развітанне. Тады немец ударыў яе прыкладам па галаве, каб не паднялася..."** (выказванне Аляксандра Хаманюка з фільма Юры Каліны „У нас у Райску")

Мінула дваццаць гадоў і брат Міхал адазваўся, прыслаў у гміну заяўку на метрыку бо там, у Бельгіі яму быў патрэбны такі дакумент. Гэта мела быць пад сакрэтам, каб ніхто не ведаў. Але ў гміне ў Храболах працаваў хлапец з нашай вёскі і прыйшоў да нас і пацішу кажа, што такая справа.

Яўгенія Нікалаюк: — А ён думаў увесь час, што нас няма. А мы ўсё падавалі заяўкі ў Чырвоны крыж, каб пра яго даведацца. І заўсёды атрымлівалі адказ, што ён ужо не жыве. А ён зноў думаў, што ягоныя браты не жывуць. І гэта доўжылася дваццаць гадоў. І калі паявілася вестка, што ён жыве, то мы не даваралі, падазравалі, што гэта нехта падшываецца. Папрасілі ў яго, каб нейкі доказ прыслаў. І ён прыслаў нам свой здымак. Абмяняліся мы некалькімі пісьмамі і ён да нас прыехаў з дачкою. Бо ён там, у Бельгіі, ажаніўся, з француженкай. Афармілі ім запрашэнне, бо тады ж не так проста было з Бельгіі прыехаць, не тое, што цяпер — сеў у машыну і паехаў. Міхал памёр чатыры гады таму. Але прыязджаюць ягоныя дачка і зяць, і ўнук з жонкаю, і праўнукі. Спярша складана было дагаварыцца, трэба было наймаць перакладчыцу. А цяпер нашы ўнукі крыху англійскай мове падвучыліся і ўжо так самі абыходзімся. І ў Бельгію ездзілі Васіль з Аляксандрам. Яшчэ пры камуне ездзілі — як ён толькі паехаў, зараз даў нашым *вызаў*. І цяпер перапісваюцца з намі, усё нас да сябе запрашаюць.

Нейкі час кантакт між намі парваўся, бо Міхал меў у Бельгіі калегу, рускага. Дзядзька, калі прыехаў, то ўсё разумеў — і папольску, і па-нашаму, але напісаць пісьма не мог. То яму той рускі сябра пісьмы да нас пісаў. Але той рускі сябра памёр і тады той кантакт быў парваўся.

Адна жанчына, суседка Аляксандравай дачкі з Беластока, працавала там, дзе ён жыў, у Бельгіі. І ёй удалося знайсці сям'ю дзядзькі і такім чынам узнавіць кантакт. Дзядзька ўжо не жыў. Але пакуль, то ён зноў, як у вайну, страціў кантакт з найбліжэйшымі. Ён захварэў на старасць, пачаў траціць памяць. Аднойчы выйшаў ён з дому, адарваў свой джы-пі-эс і бадай на тры гады прапаў з сям'і. Калі яго знайшлі, тады аддалі ў госпіс, бо ж абое — і ягоная дачка, і ейны муж, працавалі і не маглі ім займацца дома. А пакідаць дома баяліся, каб зноў куды не пайшоў. Чатыры гады ўжо мінула, як яго няма.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



Аляксандр Хаманюк



Мікалай Хаманюк



Размова з ЛЮБОЎЮ ГАЛКІНАЙ, рэгентам хору сабора Прасвятой Багародзіцы ў Оршы, які ў сёлетнім Фестывалі царкоўнай музыкі ў Беластоку заняў трэцяе месца ў катэгорыі прыхадскіх хароў.

# Аршанскі саборны хор

**— Можа спачатку крыху пра Вас: які быў Ваш шлях у рэгентуру саборным хорам горада Оршы?**

— Я сама нарадзілася ў Мінску. У маёй радні спявалі ўсе. Яны не атрымалі музычнай адукацыі, але пеўчыя карані маёй сям'і моцныя. Калі ўлічыць, што мой прапрапрадзед, як нядаўна высветлілася, паляк па нацыянальнасці, быў расспяваны, і, відаць, польскія пеўчыя карані перадаліся мне ў спадчыне. Зараз я жыву ў малой мясцовасці, горадзе Барань, які з'яўляецца прыгарадам Оршы. Усё пачыналася паціхеньку-памаленьку. Я працавала музыкам у дзіцячым садзе. Прыйшоў да нас бацюшка, які атрымаў у Барані прыход. І першае, што робіць святар — прыходзіць у музычныя структуры і пачынае апытваць людзей пра веравызнанне, пра адносіны да богаслужэння, ці ёсць жаданне спяваць і г.д. Даведаўся, што я іграю на фартэпіяна, валодаю некалькімі інструментамі, што закончыла Віцебскае музычнае вучылішча і вучылася ў Ленінградскай кансерваторыі, дзе я знаёмілася і з дырыжыраваннем, і харавым мастацтвам, і ігрой на інструментах — мая адукацыя абшырная...

**— Абшырная геаграфія Вашай біяграфіі: Мінск, Віцебск, Піцер...**

— Так бывае. Мне, чалавеку пеўчаму, які знаёмы з харавой партытурай, пастаноўкай голасу — гэтаму навучалі мяне ў кансерваторыі — было цікава адклікнуцца на прапанову. Гэта быў новы пласт для мяне, бо раней я ніколі не сутыкалася, да 1992 года, з царкоўнай музыкай зусім. Мы ў вучылішчы, вядома, слухалі, але чыста фармальна, каб здаць залік ці экзамен і за выдатную ацэнку атрымаць стыпендыю. Я звярнулася да сваіх сяброўак і знаёмых каб так папрабаваць, калі ў іх ёсць цікавасць і жаданне, каб так заспяваць. Зацікавіла мяне спачатку, што гучыць гэта ўсё *a capella*, што тут трэба настолькі дакладна валодаць голасам і гарманічнымі перастраеннямі каб выказаць усю паўнату, якую заклаў кампазітар у сваіх творах. Каб пачуць тую асноўную думку, той настрой, тую задачу, якую ён ставіў перад сабою калі пісаў.

**— А як Вы трапілі ў Барань: сям'я прывяла?**

— Так, туды пераехала сям'я.

**— Я глядзеў праграму, якую Вы прапануеце тут, у Беластоку, на фестываль. У ёй прэваліруюць творы сучасных расійскіх кампазітараў. Гэта, мабыць, найбліжэйшы гарызонт Вашых музычных зацікаўленняў?**

— Я выходжу з таго, які твор хор агучыць найлепш. Мы праводзілі пошукі ў розных пластах музыкі, але дайшлі да высновы, што менавіта толькі гэты напрамак нам пакуль што пад сілу. Наш калектыў арганізаваўся толькі ў 2013 годзе. Раней мы спявалі ў розных храмах і, мо за выключэннем адной-дзвюх асоб, нават не спатыкаліся, не кантакталіся з сабою. Айцец Валерый Сярко, які зараз з'яўляецца настаяцелем храма, сёння таксама з намі. Ён зацікавіўся маёй працай як рэгента, ён мяне запрасіў у сабор; я да таго часу працавала ў іншых цэрквах. Калі яму даверылі цэнтральны сабор Нараджэння Прасвятой Багародзіцы ў Оршы, ён рашыў узняць на адпаведны ўзровень і службы, каб хор там быў выдатны. Ён запрасіў мяне і даў мне магчымасць падбіраць пеўчых паводле майго меркавання.

**— Хто ў Вас выконвае сольныя партыі?**

— Сапрана Алена Ларыёненка, альт Ірына Гурынава ды бас Віталій Лыннікаў.

**— Рэпертуар, які Вы сёння прадставілі, гэта толькі частка Вашага пеўчага дыяпазону. Творы якіх іншых кампазітараў, магчыма загранічных, Вы выконваеце?**

— Пакуль што ў мяне няма блаславення спяваць замежную музыку. Магчыма, што мы тут пазнаёмімся з некаторымі выканаўцамі, з некаторымі цікавымі нотнымі запісамі, і, магчыма, нешта зарубежнае нас зацікавіць.

**— Старынная італьянская музыка, для прыкладу Пергалезі?**

— Выконвалі мы Ведаля...

**— Ведаль, гэта ўкраінскі кампазітар, усходнеславянскі, свой...**

— Ён свой, але ў некаторых момантах ён прытрымліваецца італьянскай школы, таму, калі мы сталі спяваць яго творы, нам забаранілі гэта рабіць.

**— У Вас, відаць, вельмі строгія правілы...**

— Нас так напраўляюць.

**— Вы ў Беластоку ўпершыню. Дзе яшчэ Вы бывалі?**

— За рубяжом мы ўпершыню. Мы ў асноўным выступаем на літургіях, на святочных службах, якія праходзяць у розных гарадах, куды нас запрашаюць, каб, для прыкладу, упрыгожыць служэнне патрыярха, які нядаўна наведаў Беларусь — быў у Мінску і Віцебску, і нас туды запрашалі. Не толькі на службах, але і на канферэнцыях, якія ладзіла духавенства данай вобласці.

**— Гэта ў Беларусі. А ў Расію Вы выязджалі?**

— Пакуль што не. Мы бываем у гарадах Віцебскай вобласці — гэта наша епархія, плюс розныя гарады Беларусі. Вось нядаўна былі мы на Берасцейшчыне, на царкоўных святкаваннях і на канцэртах.

**— Крыху хачу спытаць пра Оршу: там пераважае праваслаўе. Як там прэзентуюцца іншыя канфесіі, напрыклад каталіцтва?**

— У нас адзін каталіцкі храм, які стаіць побач нашага сабора Прасвятой Багародзіцы.

**— А колькі ў Оршы праваслаўных храмаў?**

— Два манастыры, дзе па некалькі цэркваў, і пяць асобных храмаў. І ў прыгарадах.

**— Дзякую за размову і жадаю Вам поспехаў у служэнні Усявышняму.**

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**




# http://tradart.by

Палітыка цэлы час умешваецца ў наша жыццё. Хочам мы ці не хочам, але глядзець на сябе, свае паводзіны, нават сваё адзенне мы пачынаем у залежнасці ад тых ці іншых палітычных падзей, якія ўплываюць на нашу свядомасць. Узяць, напрыклад, тыя ж вышыванкі. Наўрад ці каму прыйшло б у галаву яшчэ тры-чатыры гады таму, што яны будуць надта моднымі. Аказалася — сталі, бо ёсць закамуфляваным пратэстам супраць расійскай агрэсіі на Украіне. Мода на беларускія арнаментальныя знакі з'яўляецца своеасаблівым працягам моды на вышыванкі. І таму гэтыя спрадвечныя сімвалы, пра якія раней узгадвалі толькі рэдкія спецыялісты, цяпер можна пабачыць і на гадзінніках, і на балёнках.

Моду на традыцыйнае можна таксама лічыць несвядомым адказам на глабалізацыю. Калі глабалізацыя сцірае граніцы, уніфікуе права, перакладае ўсё на адну мову, то мода на традыцыйнае становіцца праявай імунітэту да цалкавітай аднастайнасці нацый і народаў. Таму і карыстаюцца сёння попытам традыцыйныя беларускія спевы, танцы і рамёствы, якім навучаюць, у прыватнасці, у так званай Школе традыцыйнага мастацтва, што дзейнічае ў Мінску і належыць фальклорнаму гурту „Guda". Больш падрабязна даведацца пра яе можна, калі зазірнуць на сайт http://tradart.by.

Інтэрнэт-прадстаўніцтва школы даволі цікавае і незвычайнае па выяўленні. Так, яе аснова — нерухомая выява зялёных каласоў, на тле якіх месцяцца фотаздымкі і выйсці на рубрыкі і старонкі сайта.

„Школа традыцыйнага мастацтва пачала працу 17 ліпеня 2012 г. Вучыцца ў Школе традыцыйнага мастацтва можна і дарослым, і дзецям з шасці год", — распавядаецца на старонцы „Пра нас", выйсце на якую знаходзіцца на пачатку іх спісу на галоўнай старонцы. Згодна з пададзенай інфармацыяй, дарослых там навучаюць па чатырох накірунках — традыцыйнае спеўнае мастацтва, традыцыйны беларускі танец, рамёствы, лекцыі па традыцыйным светапоглядзе і мастацтве. Дзяцей, якія падзелены на дзіцячую і падлеткавую групы, вучаць спевам, танцам, рамёствам, знаёмяць са старажытнымі легендамі, казкамі, гульнямі, святкаваннем Калядаў, Гуканнем вясны, іншымі святамі традыцыйнага календара.

„Школа традыцыйнага мастацтва — гэта не толькі сістэма навучання ў азначаных накірунках. У першую чаргу, гэта прывіццё чалавеку каштоўнасцей, якія тысячы год існавалі на нашай зямлі: захаванне духоўнага і фізічнага здароўя чалавека, традыцыйная сям'я,

ашчаднае стаўленне да зямлі, навакольнага асяроддзя, роднай мовы і культурнай спадчыны", — сцвярджаецца на старонцы „Пра нас" і адзначаецца, што навучанне адбываецца за грошы навучэнцаў.

У адрозненні ад многіх беларускіх сайтаў, на сайце Школы традыцыйнага мастацтва ўзгадваюцца тыя, на кім яна трымаецца. Пра лектараў і настаўнікаў школы можна даведацца, калі зайсці на старонку „Нашы выкладчыкі". Дарэчы, іх не надта многа — усяго пяцёра.

Пра дзейнасць школы распавядаецца на старонках „Нашы праекты" і „Конкурс танцаў". Праўда, не абышлося там без агульнага недахопу — уладальнікі сайта чамусьці забываюцца ўказваць год сваіх выступленняў, пазначаючы толькі чысло і месяц. Таму здагадацца, калі ж дакладна было тое, пра што там распавядаецца, практычна немагчыма. І тое, што, відаць, якраз зараз адбываецца набор дзетак у школу, можна зразумець толькі па размешчаных побач з аб'явай выявах старонак гурта „Guda" ў сацыяльных сетках.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**






## Друкар першай „Свабоды"

# 135 гадоў з дня нараджэння Вацлава Іваноўскага

Выдатны дзеяч нацыянальнага руху, змагар за беларускасць Вацлаў Іваноўскі нарадзіўся 7 чэрвеня 1880 г. у фальварку Лябёдка ля мясцовасці Галавічполе, што на Шчучыншчыне. Ягоны бацька Леанард быў выдатным навукоўцам, сябрам расійскага хіміка Дзмітрыя Мендзялеева, а браты сталі дзеячамі іншых народаў: Юры Іваноўскі — польскага, а Тадэвуш Іваноўскі — літоўскага.

У 1904 г. Вацлаў скончыў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут, займаўся ў горадзе на Няве да 1913 г. навуковай і выкладчыцкай працай. Стаў адным з заснавальнікаў Беларускай рэвалюцыйнай партыі, пасля яе расколу ўзначаліў Круг беларускай народнай прасветы і культуры. Займаўся выдавецтвам, зрабіў апрацоўку першага беларускага буквара. Разам з сябрамі друкаваў у Лябёдцы першую беларускую газету „Свабода", наклад якой быў знішчаны ні то бацькам, ні то самімі выдаўцамі з-за пагрозы арышту паліцыяй. У пачатку 1906 г. узначаліў створанае ў Пецярбургу першае беларускае выдавецтва — суполку „Загляне сонца і ў наша ваконца". Супрацоўнічаў з газетамі „Наша доля" і „Наша ніва", пісаў пад псеўданімам Вацюк Тройца.

У 1913-1915 гг. Іваноўскі жыў у Вільні, шмат працаваў у розных беларускіх арганізацыях і суполках. У канцы 1915 г. адышоў ад палітычнай дзейнасці, нейкі час жыў у Расіі. У Беларускі нацыянальны камітэт пад старшынствам Рамана Скірмунта абраны завочна. Пасля кастрычніцкага перавароту 1917 г. зноў вярнуўся ў палітыку, браў удзел ва Усебеларускім з'ездзе ў Мінску. Стаў міністрам асветы ва ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі. У снежні 1918 г., пасля адступлення нямецкіх войскаў, разам з некаторымі іншымі сябрамі Рады БНР застаўся ў Мінску. У траўні 1919 г. арыштаваны бальшавікамі, інтэрнаваны ў Смаленск. Пасля вызвалення адмовіўся выязджаць у Польшчу, вярнуўся ў Мінск, дзе працягваў працаваць на карысць беларускай справы. У лютым-сакавіку 1920 г. удзельнічаў у беларуска-польскіх перамовах, імкнуўся пазбегнуць падзелу Беларусі. Адначасна займаўся развіццём беларускіх школ на Міншчыне, арганізаваў выпуск літаратурнага штотыднёвіка „Рунь".

Падзел Беларусі ў выніку Рыжскай змовы пазбавіў Вацлава Іваноўскага надзеі на ўсталяванне беларускай дзяржаўнасці. Ён адмовіўся ад палітычнай дзейнасці і вярнуўся да навуковай працы. У 1922-1939 гг. займаў пасаду прафесара Варшаўскага політэхнічнага інстытута. Увосень 1939 г. пасля наступу гітлераўцаў зноў апынуўся ў Вільні, выкладаў ва ўніверсітэце. У першыя дні нямецкай акупацыі Беларусі Іваноўскі кіраваў аднаўленым Беларускім нацыянальным камітэтам у Вільні. У 1942 г. быў прызначаны нямецкімі ўладамі на пасаду бургаміста Мінска. З чэрвеня 1943 г. узначальваў Беларускую народную самапомач. Ратаваў людзей ад саветаў і гітлераўцаў адначасна.

6 снежня 1943 г. Іваноўскі быў цяжка паранены невядомымі на вуліцы, быў прывезены ў шпіталь, але там, пакінуты без лекарскай дапамогі, назаўтра памёр. Забітага бургаміста Мінска святары „старых традыцый" нават адпяваць не хацелі, бо ён быў „няправільнай" — кальвінісцкай канфесіі. Пахаваны на сталічных Кальварыйскіх могілках.

16 снежня 2006 г. у Мінску на Кальварыйскіх могілках адбылося ўрачыстае адкрыццё надмагільнага помніка Вацлаву Іваноўскаму. У Лябёдцы ў гістарычным доме мясцовая адміністрацыя трымае ўстанову ледзь не закрытага рэжыму. Невялікі музейчык роду Іваноўскіх створаны ў школе Галавічполя.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

1 ☞ працяг

# Алесь Бяляцкі...

эканамічны падтэкст. Яны спрабуюць хоць трошкі нешта набраць. Адбываюцца парадаксальныя рэчы: з аднаго боку нічога не мяняецца, а з іншага — гучыць рыторыка, што „мы гатовы да змен і супрацоўніцтва”, а пытанні палітвязняў, правоў чалавека, смяротнага пакарання — на іх выразнага адказу няма. Ідзе папулістычная рыторыка, якая не падмацаваная рэальнымі справамі.

Падзеі ва Украіне вельмі моцна адбіваюцца на беларускім грамадстве, у нас слухаюцца расейскія каналы, праз якія ідзе шалёная прапаганда: гэтая агрэсіўная хваля накрывае Беларусь, таму багата людзей глядзіць на Украіну праз прызму расейскіх СМІ і ў гэтым вялікая праблема. Улады ж з аднаго боку не прызнаюць анексіі Крыма, а з іншага — не падпісваюць дакумента ў Рызе на саміце „Усходняга партнёрства”, дзе напісана канкрэтна пра анексію Крыма. Яны лавіруюць. Аднак відавочна, што Лукашэнку ўкраінскія падзеі насцярожылі, бо калі Крым стаў „наш”, то чаму і Беларусь не можа стаць „нашай”. Але гэтыя ўсе саюзы з Расеяй зайшлі настолькі глыбока, што зрабіць нават крок назад Беларусі і ўладам краіны надзвычай цяжка. Рэальна залежнасць ад Расеі надзвычай высокая і гэта вынік непрадуманай васальнай палітыкі са спадзяваннем на танныя рэсурсы, але сыру ў мышалоўцы няма бясплатнага. Платай можа стаць незалежнасць краіны, і гэта ўсе сёння выразна адчуваюць. Супрацьстаяць расейскай прапагандзе могуць толькі незалежныя СМІ».

Ацаніў таксама саміт у Рызе: «Саміт я не ацэньваю як правальны. Проста было багата чаканняў, і атрымалася багата расчараванняў. Але ў гэтым былі пэўныя аб’ектыўныя прычыны, бо не можа быць голых спадзяванняў, якія не грунтуюцца на канкрэтнай працы. Саміт выразна падкрэсліў, што шэсць краін падзяліліся на тры групы па сваіх задачах, мэтах і чаканнях ад „Усходняга партнёрства”. І ў першай групе, яўна праеўрапейскай, апынуліся Украіна, Малдова і Грузія. Прычым са сваімі жахлівымі праблемамі: страшная беднасць у Малдове, вайсковыя канфлікты ў Грузіі і ва Украіне, дзе кожны дзень надалей гінуць людзі. І той мінімальны ўзровень рэформ, які яны павіны былі выканаць, яны не выканалі па аб’ектыўных прычыных. Аднак калі краіны Усходняй Еўропы кажуць, што гэта еўрапейскія краіны, і можа быць маюць перспектывы Еўрасаюза, то ў Францыі і Нямеччыне гэта ўжо не так адназначна, там не гатовыя браць на сябе дадатковыя абавязкі і палітычныя, і фінансавыя. Канешне, гэтая негатовасць ЕС да ўспрымання гэтых краін як еўрапейскіх — адчуваецца. І з гэтым трэба працаваць. Арменія — гэта асобная група. Яна ўвайшла ў Еўразійскі саюз, а з іншага боку — спрабуе заключыць дамовы з Еўрасаюзам. Такая палітыка шматвектарная, слабасць якой у тым, што Арменія — сама слабая, акрамя таго яшчэ і мае канфлікт з Азербайджанам. А свет такі, што прыйдзецца і так вызначацца, у які бок урэшце ісці. І трэцяя група — гэта Беларусь і Азербайджан, якія самі „пляваць хацелі” на Еўрапейскі Саюз. Дайце нам грошы і больш нам нічога не трэба, і не дыктуйце, як нам жыць. Было заяўлена адкрыта — нас цікавіць „Усходняе партнёрства” і адносіны з Еўрасаюзам, бо нам патрэбныя сродкі. У Еўрасаюза ёсць свае праблемы, і многія краіны, Чэхія ці Венгрыя, наракаюць, аднак нам прынамсі гэтага дасягнуць. Мы заўсёды даводзім, што калі беларускія ўлады не зацікаўленыя ў рэальным супрацоўніцтве з Еўрасаюзам, то ЕС павінен супрацоўнічаць з грамадзянскай супольнасцю. Еўрасаюз павінен супрацоўнічаць з тымі, хто хоча супрацоўнічаць, а не збіраецца падмануць. Саміт страсянуў сітуацыю. Пасля таго, як кожны сказаў, што думае, усе засталіся незадаволенымі. Аднак цяпер, напрыклад, Украіна ведае, што трэба зрабіць, каб атрымаць бязвізавы рэжым. Што датычыць нашага грамадства і грамадзянскай супольнасці, то мы паказалі, што тактыка і стратэгія рэжыму — не змяніліся, ніхто (акрамя Туска) не сказаў, што ёсць нейкія змены. Рэжым не вырашае важных пытанняў, гэта яго прынцыповая пазіцыя».

Пасля прэс-канферэнцыі на Радыё Рацыя працягвалася прэзентацыя кнігі «Халоднае крыло Радзімы» і будніх турэмных дзён не толькі праваабаронцаў, заключаных у бабруйскую калонію. Пісьменнік і палітык накіраваўся затым у Варшаву, у Беларускі дом.

**Міра ЛУКША**

# Майская
## сустрэча пенсіянераў

7 мая гэтага года ў святліцы ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) адбылася сустрэча пенсіянераў з удзелам Яна Каліноўскага — старшыні Акруговага праўлення Польскага саюза пенсіянераў (ПСП) у Беластоку. Сабраліся 50 чалавек. Былі абмеркаваны справы дапамогі людзям г.зв. трэцяга веку з боку пенсіянерскай арганізацыі.

Ядвіга Карпюк — старшыня Раённага праўлення ПСП у Нараўцы паінфармавала пра дзейнасць пенсіянерскай арганізацыі ў Нараўчанскай гміне і аб тым, што прадбачылі ў планах працы ў бліжэйшым часе, між іншым, у чэрвені, калі адбудуцца танцавальныя вечарыны і краязнаўчыя экскурсіі.

Праўленне ПСП у Нараўцы падрыхтавала пачастунак. Пенсіянеры праспявалі шмат сваіх любімых беларускіх, рускіх і польскіх песень.

**(яц)**

# Адгалоскі: ЦУД ЗА БУГАМ

У „Ніве” № 19 ад 10.05.2015 г. была мая інфармацыя ў „Адгалосках” пра таблічкі з турыстычнай інфармацыяй у павеце *Соколув-Подляскі*, пры дарозе № 62 з Драгічына ў той жа Саколаў. Бачыў я іх у гэтым годзе перад Вялікаднем. Надпісы на іх інфармавалі аб даўніх цэрквах у мясцовасцях, дзе, як ведаем, ад ранняга сярэднявечча да дваццатага стагоддзя былі цэрквы: спачатку праваслаўныя, потым уніяцкія і зноў праваслаўныя. Значыць, у гэтых мясцовасцях жылі ўсходнія славяне — беларусы або ўкраінцы.

Едучы на Міколу, 22.05.2015 г., я са здзіўленнем заўважыў, што памяняўся змест надпісаў на таблічках: прапалі словы *„dawna cerkiew”*, а на іх месцы з’явіліся словы ***„kościół z .... wieku”***. Проста ***„cud za Bugiem”***.

Відаць, тыя першыя турыстычныя інфармацыі на таблічках не былі згодныя з польска-каталіцкай версіяй гісторыі. Я чуў, што для падтрымання міфаў у гэтай версіі гісторыі нават здараюцца выпадкі вырывання лістоў з маладаступных гістарычных дакументаў у бібліятэчных чытальнях. Але нічога — нашыя гісторыкі памаленьку рэканструююць гістарычную праўду. Праўда як алей, як аліва — заўсёды выплывае наверх.

**Георгі Зюзя з Рудні, Варшава**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую прыказку.

1. стагоддзе = 10 _ 11 _ 9 _;
2. гудзенне = 43 _ 34 _ 46 _;
3. дробны злодзей, ашуканец = 6 _ 7 _ 21 _ 36 _ 13 _;
4. бацька ўнука = 47 _ 45 _ 49 _ 50 _;
5. месца згібу рукі або старадаўняя мера даўжыні, вытворная ад гэтага месца = 18 _ 17 _ 19 _ 20 _ 25 _ 26 _;
6. неабходная ў кухні = 15 _ 5 _ 37 _;
7. мастацкі вобраз у драматычным творы, увасоблены сцэнічнай ігрой акцёра = 39 _ 38 _ 44 _ 22 _;
8. мяса з рохкаючай свойскай жывёлы = 3 _ 4 _ 48 _ 1 _ 24 _ 28 _ 27 _;
9. марская прамысловая рыба сямейства скумбрыевых = 40 _ 14 _ 41 _ 42 _ 23 _;
10. катэгорыя існавання матэрыі ў секундах, мінутах і г.д. = 16 _ 29 _ 30 _;
11. мангольскае жыллё = 8 _ 33 _ 31 _32 _;
12. амерыканскі штат з Вялікім Салёным возерам = 35 _ 12 _ 2 _.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | | | | | | |
| | | | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | | | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | | | | | | 27 | 28 | 29 |
| | | | | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |
| | | | | 36 | | 37 | 38 | 39 | 40 |
| 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 | 50 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 20 нумара**

Планета, удой, фен, слых, карыта, готыка, чарот, шайба, хор, ток, меднік, Ева, прыбой, змена, самаед, душыцель.

Рашэнне: Не той бедны, хто грошай не мае, а той, хто не мае душы.

Кніжную ўзнагароду высылаем Казіміру Радошку са Свебадзіцаў.

# 07.06 — 13.06

**(22.03. — 20.04.)** Знайдзі час у пары на размовы і супольныя захапленні. Калі акажаш партнёру адабрэнне, усё між вамі ў чэрвені будзе ў парадку. Тлумач канфлікты. Старайся не думаць пра мінаючы час. Цяпер ты не будзеш узорам працавітасці, але будзеш удачлівы. З 12.06. маеш шанцы на павышэнне, не вагайся пагаварыць пра гэта. З 12 (да 16.06.) выйграеш любую справу.

**(21.04. — 21.05.)** 8-12.06. добры час на цяжкія размовы. Удасца табе штосьці аформіць, асабліва ва ўстановах або з людзьмі, з якімі звычайна табе цяжка дагаварыцца. Добры час на падпісванне дамоў, наладжванне суполак. Калі ты самотны Бык, усё залежыць ад твайго стаўлення. Адпачывай, бо пад канец тыдня станеш перад немалымі выклікамі. Але нічога не вымушай, нічога не падганяй. Слухай унутранага голасу — найбольш шалёныя выбары — найлепшыя для цябе!

**(22.05. — 22.06.)** 7-8.06. знакаміты час на смелыя прыёмы, здабудзеш тое, што хочаш. З 11.06. усе справы, якія лезлі слімаком, рушаць. Падпісвай дамовы, наведвай крамы і ўстановы. Дома слухай таго, што іншыя сямейнікі табе гавораць. З 11.06. хутка рэалізуй абдуманыя планы. Час уцякае, а калі нешта прапусціш, пачнуцца ўскладненні.

**(23.06. — 23.07.)** 7-8.06. захопіць цябе новая жарсць. Многа ўражанняў і атракцыёнаў, будзеш задаволены, бо шмат што зробіш. Пасля з’ездзі кудысьці ў большай кампаніі. Добры час на пачатак дыеты. Будзеш ставіць усё на сваім, і добра — гэта табе прыдасца. Увесь месяц не насі з сабою большых грошай, бо будзеш лёгкай здабычай для злодзеяў.

**(24.07. — 23.08.)** Станеш больш вынаходлівым, дасціпным і зіхатлівым. Варта падагнаць прапушчанае ў кампанейскіх сустрэчах, пры нагодзе наладзіш гарачае знаёмства. Лады сярод сяброў і дома. 8-12.06. засыплюць цябе геніяльныя задумы, не будзе для цябе невырашальнай справы, дзейнічаць будзеш хутка і з поспехам. Форма трохі горшая. З 12.06. не май да нікога прэтэнзіі і будзь больш цярплівым.

**(24.08. — 23.09.)** Адпачнеш і расслабішся. Наладзіш цікавае знаёмства, пашчасціцца таксама на пакупках, паявіцца нейкая вельмі прыбытковая прапанова. Калі будзеш мець праблемы, падзяліся імі з іншымі. 7-11.06. будзеш мець моцную волю і будзеш дужы фізічна, можаш практыкаваць нейкую гімнастыку, што прынясе фантастычныя эфекты. Маеш моцную энергетычную падтрымку зорак!

**(24.09. — 23.10.)** 7-8.06. паразмаўляй аб прафесійных справах, сваім павышэнні; размова будзе вельмі карыснай. Вельмі міла правядзеш час у падарожжы (таксама далёкім) 8-12.06. Вельмі добры час таксама на прызнанні і нялёгкія вырашэнні. Не плануй вялікіх пакупак, купляй неабходнае.

**(24.10. — 22.11.)** 7-8.06. рэалізуй свае мэты і не дазваляй нікому мяшацца ў твае справы. Можаш многа змяніць і пайсці дарогай, па якой яшчэ не ішоў. 8-12.06. рамантычна і цёпла. Будзеш моцна заняты абавязкамі, але знайдзі час на кампанейскае жыццё. Перааранжуй сваё жыллё. Не занядбоўвай свайго здароўя асабліва ў спякоту. Усе справы плануй, калі трэба — папрасі дапамогі.

**(23.11. — 22.12.)** Будзь цікавы свету. Многа энергіі. Падумай аб змене дыеты. 6-10.06. адкрыюцца перад табою новыя магчымасці, здабудзеш прызнанне і адабрэнне свайго кіраўніцтва або асоб, ад якіх шмат будзе залежаць. Калі вядзеш фірму, знайдзі добрага дарадчыка. Трымайся правіл у бізнесе! Добры час на розныя інвестыцыі, не бойся іх — праз пару месяцаў моцна станеш на ногі.

**(23.12. — 20.01.)** 7-8.06. стабілізацыя, спакой, падпісвай дамовы, наладжвай супрацоўніцтва. Казярог у пошуках няхай асцерагаецца лішне ранніх дэкларацый і далёкіх планаў. Адраблянне хвастоў і адказнасць не толькі за сябе — так і мае быць. Слухай сваю інтуіцыю.

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш мець прызнанне з боку людзей, ад якіх ты гэтага і не спадзяваўся. Адкрыюцца перад табою новыя магчымасці. Урэшце заўважыць цябе хтосьці, на каго ты паціху разлічваеш. На працы канкурэнцыя, вельмі падступная, асабліва ад 12.06.

**(20.02. — 21.03.)** 7-12.06. выкараскаешся з самай цяжкай кабалы і знойдзеш спосаб на падмацоўку сваіх фінансаў. Паявяцца магчымасці карысных дамоў. З 11.06. дома высветліш усе сумненні і выпрастаеш тое, што хтосьці хацеў наблытаць. 12.06. пойдзеш дарогай, па якой дагэтуль ты баяўся крочыць. Адкрыюцца перад табою новыя шанцы і выстартуеш з нейкім прыцягальным праектам.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# У палескай глыбінцы (4)

Колькі ў жыцці трэба выпрабаваць абмежаванняў, непрадбачаных коштаў і нечаканых вестак з фронту пра смерць знаёмых і блізкіх людзей, каб адкінуць пустыя думкі і планы ды засярodзіцца на асноўным, каб проста і зразумела разважаць пра ісціну справы?

— Наш народ мае ячшэ такія комплексы, што царква павінна быць традыцыйнай, — працягвае размову айцец Расціслаў. — Што павінна быць золата, купалы, сцены. Гэта ўсё форма. Для нас найважнейшая ісціна. Што гэта значыць? Адказ тут просты: царква гэта людзі. Народ, які збіраецца ў адным месцы дзеля супольнай малітвы. Гэта тое, што да нас прыходзяць самыя шчырыя хрысціяне.

Спаса-Праабражэнская парафія, калі глядзець на колькасць парафіян, маленькая, тут усяго сто пяцьдзясят душ. У час нядзельнай літургіі ў царкве выстойвала за трыццаць асоб.

— У мяне такое ўражанне, — кажу святару, — што ў вас найбольш ангажаваныя ў жыццё парафіі старэйшыя жанчыны.

— Як кругом! — чую ў адказ.

Гэта быў надта трапны каментар. Ды не трэба ехаць у Ковель, каб прыкмеціць такую асаблівасць. Яшчэ больш здзівіла мяне, хоць не павінна, калі цёткі кідалі на ахвяравальную талерку па адной грыўні (нашыя дваццаць чатыры грошы). З другога боку здзіўлялі паасобныя жэсты. У час багаслужбы святар назваў імёны трох спонсарак, якія цягам мінулага тыдня ахвяравалі на царкву па сто грывень. Ва ўкраінскай рэчаіснасці, дзе пенсіянерам выплачваюць толькі тысячу грывень (няцэлыя пяцьдзясят долараў), такі ўзнос, сто грывень, прамаўляў як касмічная сума.

— З такімі парафіянамі як нашы, можна ўсё, — кажа айцец Расціслаў.

* * *

Украінцы не любяць абносіцца са сваёй рэлігійнасцю ды і большасць грамадства моцна аддаленая ад царквы і духавенства. На кожным кроку можна адчуць, што найбольшай маральнай каштоўнасцю тут нацыянальная ідэя і незалежнасць. Ды калі ідзе пра аўтарытэты, ніякі святы не мог бы раўняцца з Тарасам Шаўчэнкам, бацькам украінскай літаратуры. З другога боку, людзі пастаянна здзіўлялі натуральнай дабрынёй і спагадлівасцю.

На заканчэнне літургіі ў гонар жанчын уся царква праспявала ўкраінскае «Многае лета», дзе быў канкрэтны наказ: любіць людзей, айчыну і родную мову. У спеве, які гучаў на народны манер, адчувалася гаючая цеплыня і мастацкая шчырасць. Яго гарманічнасць заахвочвала падключыцца і спяваць разам з апошнімі, нават без ведання слоў. Словам, кожны голас быў тут патрэбны.

— Тут моцна намоленае месца, — патлумачыла той музычны феномен харыстка Оля, у прыватнасці настаўніца музыкі. — Калі я прыйшла сюды першы раз, ведала што тут астануся, — дадала.

У хатцы, перааробленай на царкву, да 1991 года жылі людзі. Пасля месца служыла рыма-каталікам.

— На самым пачатку некалькі гадоў працаваў касцёл, — паясняе айцец Расціслаў. — Памятаю, тут служылі два ксяндзы. А пасля, калі яны пабудавалі новы касцёл, будынак быў перададзены грэка-каталікам. Наша парафія ўзнікла шэсць гадоў таму і тады было вынесена пытанне памяшкання. Якраз грэка-каталікі пабудавалі сваю царкву і гэты будынак быў перададзены нам. Зараз мы вядзем старанні, каб памяшканне перайшло на ўласнасць нашай царкоўнай грамады. Бо тут мы ўклалі шмат маральных і фізічных сродкаў. Тое, што было тут на пачатку і зараз — гэта неба і зямля. Гэта быў аварыйны, запушчаны будынак, які мы паднялі з заняпаду, аднавілі, ды і далей хацелі б яго ўдасканальваць.

— А я хачу яшчэ дадаць, — уключылася ў размову спадарыня Оля, — што наш свяшчэннік мае прыстойную музычную адукацыю.

Апошняя інфармацыя ўсё патлумачыла. Карацей кажучы, я зразумела чаму ў парафіі захавалі народны манер выканання, які не меў нічога супольнага з савецкай псеўдафальклорнасцю і надта падыходзіў да хаткі-царквы.



* * *

— Можна сказаць, што сёння нашыя ўкраінскія прыхаджане выходзяць з падполля, — кажа айцец Расціслаў. — Што гэта значыць? У святле апошніх падзей, то-бок расійска-ўкраінскай вайны, паболь шала сімпатыкаў для царквы Кіеўскага патрыярхату. Людзі не хочуць прапаганды, фальшу. Яны бачаць, як паводзіць сябе маскоўскі патрыярх, каго ён падтрымлівае. Шмат духавенства, якое фармальна прыналежыць Маскоўскаму патрыярхату, душой за Украінай. Яны чакаюць зручнага моманту, каб з намі аб'яднацца. Усё можа змяніцца цягам адной секунды. Вось, за савецкіх гадоў у Ковелі працавала толькі царква Маскоўскага патрыярхату. А зараз нас па палавіне, — адзначае святар, — сем парафій *маскоўскіх* і сем *украінскіх*. І калі б вы спыталі на вуліцы ў людзей, за якой яны царквой, ці за маскоўскай, ці за ўкраінскай, то сёння ў Ковелі большасць адкажа, што за ўкраінскай.

Як паказаў мой досвед, адказ залежаў яшчэ ад спосабу як паставіш пытанне. Самі вернікі Маскоўскага патрыярхату не скажуць пра сваю царкву «маскоўская». На пытанне пра прыналежнасць, яны адкажуць коратка: „Мы — праваслаўныя”. Калі паслухаць крамлёўскай прапаганды, украінская царква павінна быць агрэсіўнай і займацца адно адбіраннем цэркваў у вернікаў Маскоўскага патрыярхату. Папраўдзе, падзел на патрыярхаты праходзіць праз многія сем'і або па міжпакаленнай лініі. Мінімалістычны стыль Спаса-Праабражэнскай царквы і яе дамарослы воблік зусім пярэчылі экспансіі. Ды самі вернікі не праяўлялі ахвоты пашыраць сваёй парафіі. Невялікая колькасць душ тут якраз прамаўляла ў карысць грамады, дзе кожны кожнага ведаў па імені і прозвішчы, мог ахвяравацца сваім часам і рэальна дапамагчы ў бядзе.

— Нашыя ўкраінскія парафіі вырастаюць знізу і практычна з нуля. Гэта адбываецца па ініцыятыве людзей, — адзначае айцец Расціслаў. — Людзі рамантавалі пакінутыя вакзалы, залы для рытуальных паслуг ці звычайныя хаты, каб там адчыніць царкву. Усё на свой кошт, сваімі рукамі. Ці ўсе ўкраінскія парафіі такія маленькія? У Ковелі гэта выглядае па-рознаму, ёсць большыя і меншыя, ёсць сабор.

Я спытала, як у рэальнасці выглядае пераход з Маскоўскага пад Кіеўскі патрыярхат. Які гэта маштаб з'явы ў цэлай краіне?

— Гэта датычыць некалькіх дзясяткаў цэркваў, з ліку дзевяці тысяч *маскоўскіх* парафій, — кажа святар, — а самы вядомы пераход адбыўся ў Луцку, дзе для ўкраінскай царквы быў перададзены цэнтральны сабор. Карацей кажучы, пераходы не з'яўляюцца чымсьці паўсюдным, як бы хацелі гэтага спецы па варожай прапагандзе.

І чаму гэта датычыць найперш Заходняй Украіны? Бо гэтая частка найменш саветызаваная, тут пражывае найбольш свядомых хрысціян і знаходзіцца найбольш цэркваў. А ўкраінскія парафіі адраджаюцца на хвалі патрыятычнага ўздыму. Ды і ва ўмовах вайны, калі кожны дзень гінуць людзі, народ думае пра асноўнае — як выжыць.

* * *

Кіеўскі патрыярхат адрадзіўся ў 1991 годзе, разам з незалежнасцю Украіны. Царква, хоць не прызнаная кананічнай у еўхарыстычным сэнсе, лічыць сябе непасрэдным спадкаемцам Кіеўскага патрыярхату, заснаванага ў час хрышчэння Русі. Пасля наезду ў 1240 годзе манголаў, якія дагала спляжылі Кіеў і знішчылі амаль усіх яго жыхароў, Кіеўскі патрыярхат быў пераведзены спачатку ў Львоў, а пасля ва Уладзімір-на-Клязьме. На сённяшні дзень складана назваць лік вернікаў Кіеўскага патрыярхату, які пашырае свой абсяг не толькі ва Украіне, але і ў Расіі, Заходняй Еўропе, ЗША і Канадзе.

— У нас яшчэ ёсць аўтакефальная царква, гэта філіял колішняй польскай аўтакефальнай царквы. Гэта датычыць Галіччыны і Івана-Франкоўшчыны, там за тысячу парафій. Апошнім часам там памяняліся ўлады, якія выступілі з прапановай аб'яднацца з Кіеўскім патрыярхатам, — адзначае айцец Расціслаў.

Апошняя звестка цалкам збіла з панталыку. Многія крыніцы інфармавалі пра адваротны ход справы, меавіта пра жаданне Аўтакефальнай царквы далучыцца да вернікаў Маскоўскага патрыярхату. У час жывой сустрэчы была магчымасць хоць крыху высветліць супярэчную інфармацыю і ўсю неразбярыху, фабрыкаваную прапагандай. Прыдуманы фальш і мана дзейнічалі на два бакі, застаўлялі хлусіць усіх.

* * *

— У нас выраблілася такая форма, што людзі мала калі прызнаюцца ў сваіх сапраўдных пачуццях і думках, — кажа святар.

Я не магла не спытаць пра тое, як вернікі ўкраінскай царквы адчуваюць сябе ў Пачаеўскай лаўры. Гэтае месца важнае і святое для ўсіх хрысціян. У апошніх гадах, нават каб падаць звычайную запіску за здароўе (зразумела, за аплатай), трэба вызначыцца, то-бок заявіць да якога прыналежыш патрыярхату.

— Гэта ўсё прыводзіць да таго, што людзі пачынаюць *лукавіцца*, — кажа айцец Расціслаў. — Многія затойваюць, што прыналежаць да ўкраінскай царквы. Яны звычайна маўчаць або не прызнаюцца. Чаму так адбываецца? Бо калі скажуць шчырую праўду, іх не дапусцяць да споведзі і прычасця... Але што тут казаць, Пачаеў гэта наш вялікі ўкраінскі боль.

Мы не маглі закончыць размовы пра фальш і крывадушнасць, гэтаму пярэчыла атмасфера сустрэчы. У глыбі душы я была ўдзячная за адкрытасць і ветлівасць, таму на канец зноў загаварылі пра ісціну.

— Ісціна царквы, — кажа на развітанне айцец Расціслаў, — каб людзі маліліся, каб яны стараліся і дапамагалі сабе ў бядзе. Каб кожны чалавек адчуваў сябе лепшым.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960